





*Новы касьцёл сьвятога Андрэя Баболі ў Полацку.*



№ 10 (36) 1997

*...Урэшце Маё Беззаганнае Сэрца затрыумфуе*
*(з аб`яўленьняў Маці Божай у Фаціме)*

# Ave Maria

ЧАСОПІС МІНСКА–МАГІЛЁЎСКАЙ АРХІДЫЯЦЭЗІІ









*3–4 кастрычніка ў Мядзелі і Нарачы шырока адзначалася 100 гадоў з таго дня, калі сьвятая Тэрэса ад Дзіцятка Езус зьмяніла свой жыцьцёвы шлях законніцы кармэлітанкі на нябесны.*



# Фаціма

## Танец сонца

13 кастрычніка 1917 года. Гэты дзень увайшоў у гісторыю як дзень цуду, які паблізу партугальскага мястэчка Фаціма зьдзейсьніла Маці Божая. Гэты цуд яшчэ называюць танцам сонца. Што ж адбылося там 80 гадоў таму?

Ішоў 1917 год. Да рэвалюцыі ў Расіі заставалася зусім мала часу, адлік ужо ішоў нават не на месяцы, але на дні. А ў Партугаліі, у мясцовасьці Кова да Ірыя, недалёка ад Фаціму, клапатлівая Маці Божая настойліва працягвала папярэджваць сьвет пра бяду, у якую ён можа трапіць, калі не навернецца да Бога.

Пачынаючы з мая 1917 года, Яна ўжо шмат сказала сучаснаму сьвету пра траіх пастушкоў. Вось кароткія перліны з Яе пасланьняў.

**13 мая.** "...Штодня маліцеся ружанец, каб выпрасіць спакой для сьвету".

**13 чэрвеня.** "...Маё Беззаганнае Сэрца будзе тваім прытулкам і дарогай, па якой ты дойдзеш да Бога".

**13 ліпеня.** "...Ахвяруйцеся за грэшнікаў і часта паўтарайце, асабліва чынячы якую-небудзь ахвяру: "О Езу, гэта з любові да Цябе, за навяртаньне грэшнікаў... Прыйду, каб прасіць прысьвяціць Расію майму Беззаганнаму Сэрцу..."

**19 жніўня.** "...Маліцеся, моцна маліцеся, бо шмат душаў ідуць у пекла, таму што няма нікога, хто б за іх ахвяраваўся і маліўся".

**13 верасьня.** "...І надалей маліцеся ружанец, каб выпрасіць заканчэньне вайны..."

І вось надышоў дзень 13 кастрычніка. Яго чакала ўжо ўся Партугалія, бо Маці Божая ў часе ранейшых сваіх аб'яўленьняў абяцала сказаць, хто Яна. А яшчэ Яна абяцала ўчыніць цуд...

Партугалія чакала. Чакаў сьвет, той самы, які патануў у сваіх уласных грахах. Ён, стары і грэшны, сам таго не падазраючы, чакаў, што скажа яму на гэты раз Маці Божая.

На месцы аб'яўленьняў, нягледзячы на праліўны дождж, сабралася звыш 50 тысячаў чалавек, якія ў чаканьні Нябеснае Пані супольна маліліся ружанец.

Яна зьявілася і сказала дзецям: "Я Каралева сьвятога Ружанца. Прыходжу заахвоціць верных зьмяніць сваё жыцьцё, каб яны не засмучалі сваімі грахамі Збавіцеля, які вельмі зьневажаецца. Каб маліліся ружанец, выпраўляліся і пакаяліся ў сваіх грахах".



Адна са шматлікіх фатаграфій, зробленых у натоўпе, які назіраў за цудам сонца.

А пасьля дождж скончыўся, хмары расступіліся, зьявілася зіхоткае, яркае сонца, падобнае да срэбнай вясёлкі, якое, нібы агністае кола, пачало раптам паварочвацца, фарбуючы навакольны сьвет ў розныя колеры вясёлкі: жоўты, ружовы, блакітны, фіялетавы. Потым яно на хвіліну затрымалася, і зноў пачало паварочвацца, як агромністая вясёлка. Зноў затрымалася, і зноў праз хвіліну пачало свой фантастычны "танец". Цудоўнае відовішча працягвалася 10 хвілін. 50 тысяч чалавек бачылі яго, і калі яно зьнікла, заўважылі раптам, што за гэтыя 10 хвілін іхняе прамоклае наскрозь адзеньне цалкам высахла.

У сваім пастырскім лісьце біскуп Лейрыі сьцвердзіў у 1930 годзе: "Сьведкамі гэтае зьявы, якая не была зафіксавана ніводнаю астранамічнаю лабараторыяй, бо не зьяўлялася прыроднаю зьявою, былі людзі з розных асяродкаў і класаў, вернікі і атэісты, журналісты галоўных партугальскіх выданьняў, а таксама людзі з аддаленых мясьцінаў. Усё гэта выключае магчымасьць агульнай галюцынацыі..."

У часе сваіх аб'яўленьняў у Фаціме Маці Божая сказала сьвету вельмі шмат. Маці папярэджвала сваіх дзяцей, асьцерагала, навучала... А танец сонца прадэманстраваў людзям, што па волі Божай могуць дзеяцца самыя незвычайныя, цудоўныя, нязвыклай красы зьявы. Сьвет можа быць надзвычай прыгожым, ён можа зьзяць усімі колерамі вясёлкі, быць радасным і шчасьлівым. Наш сьвет цалкам знаходзіцца ў руках Бога, які здольны сваёй моцай, дабрынёй і любоўю чыніць для яго цудоўныя рэчы. Толькі людзям дзеля гэтага трэба навярнуцца да Бога...

ДА ЮБІЛЕЮ 2000 ГОДА НАРАДЖЭНЬНЯ ХРЫСТА




# ХРЫСТУС — АДЗІНЫ ЗБАЎЦА

Здараецца, што мы сустракаем людзей, якія не бачаць у Хрысьце адзінага Збавіцеля чалавека. І нават не ведаюць, на чым грунтуецца нашае перакананьне, што толькі Ён можа прынесьці чалавеку збаўленьне. Вярнулася сітуацыя, якая існавала дзьве тысячы гадоў таму. Сёньня нас акружае сьвет, падобны да таго, які быў тады, калі Хрыстус прыйшоў на Зямлю... Чаму склалася такая сітуацыя? Перш за ўсё таму, што сьвет, у якім мы жывем, вельмі "звузіўся". Некаторыя сьпецыялісты кажуць, што мы сталі "агульнаю вёскаю". Лёгкасьць зьмены месца жыхарства, а яшчэ больш — лёгкасьць перадачы інфармацыі прывялі да таго, што насельніцтва нашай зямлі вельмі перамяшалася. Няма ўжо краінаў з аднародным насельніцтвам — каталіцкім, будыйскім альбо "паганскім". Апроч мусульманскіх краінаў, якія з трывалаю пасьлядоўнасьцю імкнуцца да таго, каб толькі іслам меў у іх поўныя правы. Але на большай частцы зямнога шару паўсюль жывуць людзі, якія вызнаюць розныя рэлігіі, што часам вырасьлі з каранёў, зусім чужых хрысьціянству. Арганізатары грамадскага жыцьця вялізнымі намаганьнямі ствараюць умовы для таго, каб гэтыя людзі ўсюды пачуваліся, як дома, каб у нашым сьвеце, які дасюль здаваўся нам цалкам хрысьціянскім, яны не адчувалі ніякай адчужанасьці, каб не адчувалі сябе змушанымі прымаць хрысьціянскую культуру.

Поруч з гэтаю зьяваю, якая так узмоцнена праявілася пасьля другой сусьветнай вайны, мы маем іншую зьяву, чыста еўрапейскую. Шмат людзей пакінула Хрыста і не адчувае якой-кольвечы патрэбы збаўленьня. Такую пазіцыю прынялі і прымаюць людзі адукаваныя, якія маюць уплыў на сучасную цывілізацыю, якія фармуюць аблічча сучаснай культуры і арганізуюць эканамічнае, грамадскае, палітычнае і міжнароднае жыцьцё. Абедзьве гэтыя зьявы, што гвалтоўна пашыраюцца сродкамі масавай інфармацыі, навязваюцца таксама людзям менш адукаваным, а гэта вядзе да забываньня пра Хрыста і нават да адкрытага пратэсту супраць Яго, супраць каталіцкага Касьцёла альбо іншых хрысьціянскіх веравызнаньняў.

Такая сітуацыя не павінна ў нас, верных вызнаўцаў Хрыста і членаў Касьцёла, адымаць адвагі ў вызнаваньні нашай веры, у пакладаньні ўсяе нашай надзеі ў Езусе Хрысьце...

Тым, што прыбылі да нас з іншых краінаў, з іншых культураў, мы павінны так паказаць нашае жыцьцё, збудаванае на веры, каб яны зацікавіліся, адкуль сыходзяць наша сіла, наша надзея і любоў. Тых, што адышлі ад веры, мы павінны найперш добра зразумець, каб іх абыякавасьць да Евангельля не заразіла нас, і каб яны, пазіраючы на нас, таксама маглі ўбачыць, што дае нам Хрыстус і наша вера ў Яго...

Самую цяжкую спадчыну хрысьціянскай культуры пакінула XVIII стагоддзе, альбо эпоха Асьветніцтва. З гэтага часу чалавек "сам узяў у свае рукі ўласны лёс". Многія паверылі, што людзі могуць жыць без Бога і без Бога могуць ствараць дасканалае грамадства...

Не ўсе ў эпоху Асьветніцтва і пазьней цалкам адкінулі Хрыста. Шмат хто перастаў у Ім бачыць Бога, абвінавачваючы Касьцёл, што гэта ён з самага пачатку сказіў Яго вобраз. Многія бачылі ў Хрысьце дасканалага чалавека, які можа быць прыкладам для іншых. У той жа час, асабліва на працягу апошняга стагоддзя пачалі зьяўляцца таксама біяграфіі Хрыста, якія адпрэчваюць Яго евангелічны вобраз... Зразумела, што для некага, хто не верыць у несьмяротнасьць чалавечай душы, Хрыстус не мае збаўчай моцы. Такі чалавек намагаецца сам сабе забясьпечыць "збаўленьне", г.зн. шчасьлівае жыцьцё тут, на зямлі.

А таму, каб можна было ў Хрысьце бачыць адзінага Збаўцу, трэба найперш паверыць у Бога, у Бога Стварыцеля. Трэба найперш паверыць, што чалавек зьяўляецца не толькі дасканалым арганізмам, але кімсьці большым. Трэба паверыць, што за сваё жыцьцё чалавек адказвае перад Богам. Толькі потым можна будзе зразумець, што Бог — гэта любоў, што Ён прагне нашага збаўленьня, што Ён вядзе чалавека да вызваленьня ад зла, да паяднаньня. Толькі потым можна зразумець, што Хрыстус — найдасканалейшае выяўленьне гэтай Божай любові.

Вера ў збаўчую моц Хрыста — гэта ласка, і чалавек можа падрыхтавацца да прыняцьця гэтае ласкі. Адзін з самых важных шляхоў такой падрыхтоўкі — добрае знаёмства з жыцьцём Хрыста, чытаньне Евангельля, праз якое Бог заўсёды прамаўляе да нас.

Як жа прыкра бывае, калі веруючыя хрысьціяне не знаходзяць часу на ўважлівае прачытаньне Евангельля, а сьлепа вераць у самыя розныя скажэньні вобразу нашага Збаўцы, якія падаюцца часам са злой волі, з-за жаданьня зьнішчыць дабро. Даходзіць іншы раз да таго, што вернікі, не ведаючы Евангельля, прымаюць за праўду домыслы накшталт таго, што Езус — гэта прышэлец з іншай планеты. Наколькі ж больш мудра трываць у веры разам з тысячамі тых, хто за гэту веру ў Хрыста аддаў сваё жыцьцё, разам з мільёнамі тых, каму Хрыстова ласка дазваляе перамагаць слабасьці, служыць бліжнім, мець надзею вечнага жыцьця з нашым Панам.

***а. Паўлін Сатоўскі***
***"Rycerz Niepokalanej", № 9, 1997г.***
***Пераклад К.ГУРСКАЙ***





ПЕРШАЯ ПЛЕНАРНАЯ СЕСІЯ СІНОДУ

## Гамілія ў часе Сьвятой Імшы, прысьвечанай пачатку І-й Пленарнай Сесіі Сіноду Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Пінскай дыяцэзіі,

29 верасьня 1997г. Касьцёл сьвятых Сымона і Алены, г.Мінск.

*Калі выйшаў каля трэцяй гадзіны, убачыў іншых, якія стаялі на рынку без працы, і прамовіў да іх: "Ідзіце і вы ў мой вінаграднік". (Мц 20, 3-4)*

З таго дня гэты заклік, прамоўлены Езусам Хрыстом амаль дзьве тысячы гадоў назад у евангельскай прыпавесьці аб работніках у вінаградніку, пастаянна гучыць у гісторыі чалавецтва. Ён датычыць не толькі духоўных асоб, але таксама і сьвецкіх, якіх Бог прызывае, даручаючы ім місію ў Касьцёле і сьвеце.

Асаблівым чынам айцы Другога Ватыканскага Сабору, услухоўваючыся ў евангельскі заклік Хрыста, прызываюць усіх сьвецкіх да працы ў Яго вінаградніку.

А праз дваццаць гадоў пасьля Другога Ватыканскага Сабору ў 1987 годзе, на Сінодзе Біскупаў з удзелам прадстаўнікоў ляікату праведзена дакладная рэфлексія над пакліканьнем і місіяй сьвецкіх у Касьцёле і сьвеце.

Вынікам гэтай калегіяльнай працы стала Апостальская Адгартацыя *Christifideles laici* Сьвятога Айца Яна Паўла II, якая сваім зьместам натхняе і ажыўляе сьвядомасць дару і адказнасьці ўсіх сьвецкіх у супольнасьці і пасланьніцтве Касьцёла.

Гэтая Адгартацыя паказвае годнасьць сьвецкіх католікаў праз пакліканьне іх да сьвятасьці, праз асьвячэньне іх жыцьця ў сьвеце. Сабор пацьвердзіў, што сьвецкія вернікі зьяўляюцца паўнапраўнымі членамі Касьцёла, адоранымі спецыяльным пакліканьнем, мэта якога – "шуканьне Валадарства Божага, займаючыся сьвецкімі справамі, і кіруючы імі па замыслу Божаму" (*Lumen gentium*, 31). Яшчэ Папа Пій XII сказаў, што "вернікі, а, дакладней, сьвецкія з кожным разам выразьней павінны ўсьведамляць сабе не толькі тое, што яны належаць да Касьцёла, але што самі зьяўляюцца Касьцёлам". (Прамова да новых кардыналаў, 20.02.1946).

Гэтая адгартацыя падкрэсьлівае ўдзел сьвецкіх у жыцьці Касьцёла-Супольнасьці, г.зн., удзел у жыцьці і пасланьніцтве паўсюднага Касьцёла, і асабліва партыкулярнага, а менавіта дыяцэзіі, парафіі і аб'яднаньняў сьвецкіх. Сьвяты Айцец Ян Павел II у гаміліі на заканчэньне VII Звычайнага пасяджэньня Сіноду Біскупаў (30.10.1987г.) сказаў, што "сьвецкі католік ніколі не можа замкнуцца ў сабе, духоўна ізалявацца ад супольнасьці, але павінен быць у пастаянным кантакце з іншымі, з моцным адчуваньнем братэрскай повязі".

Гэтая адгартацыя зьвяртае ўвагу на адказнасьць сьвецкіх у Касьцёле-місіі як прапаведнікаў Евангельля, абавязваючы да евангелізацыі. Значную частку адказнасьці за місію Касьцёла Бог даручае сьвецкім, якія застаюцца ў камуніі з усімі іншымі членамі Люду Божага.

Гэтая адгартацыя заклікае сьвецкіх да выкананьня функцыі добрых выканаўцаў разнастайнай Божай ласкі праз разнароднасьць пакліканьняў у Касьцёле. Гэтая разнастайнасьць датычыць дзяцей, моладзі, мужчын, жанчын, людзей старых, хворых, церпячых. У жыцьці свецкіх існуюць розныя пакліканьні, гэта значыць, розныя духоўныя і апостальскія шляхі асобных сьвецкіх людзей.

Гэтая адгартацыя заклікае да фармацыі сьвецкіх католікаў праз пастаяннае ўзрастаньне ў евангелічнай сталасьці, праз адкрываньне ў сабе ўласнага пакліканьня і місіі ў Касьцёле і рэалізацыю іх.

Абагульняючы вышэйупамянутыя рэфлексіі, варта, мабыць, будзе паўтарыць заклік "гаспадара" з Евангельля: "Ідзіце і вы ў мой вінаграднік".

І менавіта таму, тэмаю пасяджэньняў Першай Пленарнай Сесіі нашага Сіноду, якую мы распачынаем удзелам у гэтай канцэлебраванай Сьвятой Імшы, зьяўляецца менавіта "Пакліканьне і пасланьніцтва сьвецкіх вернікаў у Касьцёле і сьвеце".

Вельмі правільным і карысным зьяўляецца намер нашага Сіноду, каб праз роздум і малітву рэалізаваць яго заданьні паводле абранага закліку: "Аднавіць усё ў Хрысьце", – Які "ёсць моцай Божай і мудрасьцю Божай".

Таму няхай наш малітоўны падыход да пасяджэньняў Першай Пленарнай Сесіі Сіноду, прысьвечанай ляікату ў Касьцёле на Беларусі, як мага больш плённа дапаможа прыняць канкрэтныя пастановы, якія стануць лакальным правам для Мінска-Магілёўскай Архідыяцэзіі і Пінскай дыяцэзіі.

Пажамы нам, Божа!

*Кардынал Казімір Сьвёнтэк*
*Арцыбіскуп, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі*

**29 верасьня ў касьцёле сьвятых Сымона і Алены ў Мінску адбылася Першая Пленарная Сесія Сіноду.**

**Яна была прысьвечана вельмі важнай і надзвычай актуальнай тэме – ролі сьвецкіх, іх пакліканьню і місіі ў жыцьці Касьцёла.**

УСЁ АДНАВІЦЬ У ХРЫСЬЦЕ 29-30.1997 ВЕРАСЬНЯ І-АЯ СЕСІЯ СІНОДУ



Акрэсьліваючы кола пытаньняў Сіноду, ксёндз Станіслаў Паўліна зазначыў: "Вернікі ўтвараюць Касьцёл. Сьвецкія вернікі зьяўляюцца самай шматлікаю і трывалаю групаю людзей, якія ўтвараюць Касьцёл на Беларусі. Яны захавалі скарб сьвятой веры, калі была толькі невялікая група сьвятароў, і яны перадалі і надалей перадаюць гэты скарб веры наступным пакаленьням. Таму Сінод пачаў свае спатканьні з размовы са сьвецкімі вернікамі пра іх пакліканьне і пасланьніцтва ў Касьцёле і ў сьвеце".

Праца гэтай Сесіі была засяроджана і ўгрунтавана на тых пытаньнях, якія з апостальскаю глыбінёю ўзьняў Папа Ян Павел II у сваёй адгартацыі *Christifideles laici*. Праз біблейскі вобраз вінаградніка Сьвяты Айцец змог яскрава паказаць тую непарыўную сувязь, якая існуе паміж Касьцёлам і вернікамі. "Бо Валадарства Нябеснае падобна да чалавека – гаспадара дому, які выйшаў вельмі рана наняць работнікаў у вінаграднік свой. І, умовіўшыся з работнікамі па дынары за дзень, паслаў іх у вінаграднік свой" (пар. Мц 20, 1-2).

З евангельскай прыпавесьці паўстае перад нашымі вачыма вялікі вінаграднік Пана і мноства людзей, мужчын і жанчын, пакліканых Богам і пасланых туды на працу. Вінаграднік – гэта ўвесь сьвет (пар.Мц 13, 38), які павінен быць пераменены паводле Божага плану ў перспектыве апошняга прыйсьця Валадарства Божага".

Такім чынам, ад кожнага з нас залежыць гэтая перамена сьвету і рэалізацыя Божага плану. "Я – вінаградная лаза, а вы – галіны. Хто прабывае ўва Мне і Я ў ім, той прыносіць багата пладоў" (пар.Ян 15,5). Кожная галіна, кожны вернік прыносіць свой плён – гэта асноўнае патрабаваньне і асноўная ўмова хрысьціянскага жыцьця ў Касьцёле.

Шмат аспектаў праблемы сьвецкіх вернікаў у Касцёле было закранута на Першай Пленарнай Сесіі Сіноду. Дзеля гэтага працавалі на працягу двух дзён розныя тэматычныя камісіі і групы, вяліся дыскусіі і ў гэтай інтэнцыі ўзносіліся малітвы. Свае думкі пра значэньне Першай Пленарнай Сесіі выказалі некаторыя яе ўдзельнікі.

*К.Л.*

**Фотарэпартаж з Першай Пленарнай Сесіі Сіноду – на 3-й старонцы вокладкі**








**Ксёндз Уладзіслаў Завальнюк, пробашч парафіі сьвятых Сымона і Алены ў Мінску**

У жыцьці Касьцёла адбылася вялікая падзея, натхнёная Сьвятым Духам – Першая Пленарная Сесія Сіноду.

Радасна, што самі вернікі выразна адчулі: Сінод – гэта таксама іх справа, іх клопат. Каардынацыйная Камісія Сіноду атрымлівае вельмі шмат пытаньняў, і прапановаў ад вернікаў. Найбольш каштоўныя з іх мы апрацоўваем, абмяркоўваем і ўлічваем пры падрыхтоўцы праектаў дакументаў.

Сьвецкія вернікі – дэлегаты Сіноду – вельмі актыўна ўдзельнічалі ў працы Першай Пленарнай Сесіі. Тэма Сесіі датычыла непасрэдна іх ролі ў жыцьці Касьцёла і таму выклікала жывую зацікаўленасьць. Асабліва актыўна і плённа яны працавалі ў групах, можна сказаць, задавалі тон гэтай працы. Думаю, што і на наступнай сесіі іх удзел будзе не менш плённым.

Гэта Першая Пленарная Сесія рэальна паказала ўсім нам, наколькі патрэбны і важны Сінод для Касьцёла на Беларусі. Спадзяюся, што дзякуючы яму, мы не толькі лепш зразумеем, што чакае ад нас Пан Бог, але і наступным пакаленьням пакінем арыенціры духоўнага хрысьціянскага жыцьця.

**Ксёндз Уладзіслаў Блін, пробашч парафіі ў Магілёве**

Я вельмі рады і шчасьлівы, што адбылася Першая Пленарная Сесія Сіноду. Дзякуй Пану Богу за гэты пачатак. Дух Сьвяты натхняў і ажыўляў нашу працу, Ён падказваў нам новыя падыходы і рашэньні. Парафіяльныя і дэканальныя спатканьні прынесьлі вельмі добры плён, і, дзякуючы гэтаму, мы здолелі скласьці важныя для разьвіцьця Касьцёла на Беларусі дакументы. Яны паказваюць, якія вялікія задачы стаяць перад намі. Гэтым я буду дзяліцца з вернікамі Магілёўскай парафіі, і мы будзем разам дзякаваць Богу за ласку, якую Ён нам даў. Хацеў бы адзначыць ролю сьвецкіх удзельнікаў Сіноду. І яны, і сьвятары разам рыхтаваліся да пасяджэньняў. Падрыхтоўка сьвецкіх была на выдатным узроўні. Без іх было б немагчыма разглядаць тэму нашай Першай Пленарнай Сесіі, тэму надзвычай важную і вельмі актуальную ў жыцьці Касьцёла. Яны былі вельмі зацікаўленымі і актыўнымі ўдзельнікамі пасяджэньняў, часта давалі свае сьведчаньні.

**Ксёндз Францішак Кісель, пробашч парафіі сьв.Андрэя Баболі ў Полацку**

Людзі ў нашай краіне доўгі час жылі без Касьцёла, і гэта нарадзіла шматлікія праблемы, якія давядзецца вырашаць яшчэ многія гады. Думаю, Сінод нам падкажа шляхі вырашэньня гэтых праблемаў.

Інтэлектуальная праца на пасяджэньнях Сесіі была вельмі напружанай. Трэба крыху супакоіцца, каб асэнсаваць яе вынікі. Безумоўна, яшчэ народзяцца канкрэтныя ідэі, якія будуць практычным плёнам пастановаў, якія былі прыняты на Першай Пленарнай Сесіі. Думаю, што іх рэалізацыя будзе адрозьнівацца па часе ў розных месцах Беларусі. Там, дзе не было перапынена рэлігійнае жыцьцё, дзе пастаянна быў сьвятар, Касьцёл хутчэй здолее ажыцьцяўляць рашэньні Сіноду. Нам гэта ў сваёй Полацкай парафіі будзе зрабіць цяжэй.

**Ала Грахава, г.Бабруйск**

Мне давялося быць старшынёй парафіяльнай сінадальнай групы. Не адразу прыйшло разуменьне, чаго Касьцёл чакае ад нас. За гэты год мы шмат зрабілі ў нашай парафіі, каб падрыхтавацца да Першай Сесіі. Праводзілі анкетаваньне, каб лепш ведаць меркаваньні, спадзяваньні вернікаў і прадставіць іх дэлегатам Сіноду.

Для Касьцёла на Беларусі сёньня самае важнае – ажывіць, зрабіць інтэнсіўным духоўнае жыцьцё сьвецкіх вернікаў, бо нельга ўскладаць увесь клопат на плечы сьвятароў. Трэба, каб кожны вернік усьведамляў, што ён – неад'емная частка ўсяго Касьцёла, што кожны з нас робіць сваю справу, якая вельмі неабходна ўсёй супольнасьці. Хрысьціянін павінен быць хрысьціянінам не толькі ў касьцёле, але і па-за ім. Першая Сесія менавіта і падкрэсьлівае гэтую важную аксіёму.





## Сьвятая Тэрэса ад Дзіцятка Езус

# ЯКІ САЛОДКІ ШЛЯХ ЛЮБОВІ

**Урывак з кнігі "Гісторыя адной душы"**

Сьвятая Тэрэса ад Дзіцятка Езус нарадзілася з 2 на 3 студзеня 1873 года ў французскай сям'і. Калі ёй было чатыры гады, памерла яе мама. Дзяўчынка ў малітвах прасіла Сьвятую Марыю замяніць ёй маці. У 1882 годзе старэйшая сястра Тэрэсы Паўліна ўступіла ў кляштар кармелітанак. У 1883 годзе Тэрэса цяжка захварэла. Пасьля яна сцьвярджала, што аздаравіла яе Маці Божая. У 1884г. дзяўчынка прыняла першую Сьвятую Камунію. Потым пасьля кожнай Камуніі паўтарала: "Ужо не я жыву, але ўва мне жыве Хрыстус". У тым жа годзе яна атрымала Сакрамэнт Бежмаваньня. У сваім дзёньніку Тэрэса запісала, што ў часе аднае Пастэркі яна перажыла "поўнае навяртаньне". У тую ноч яе сэрца ахапіла вялікае жаданьне здабыць для Езуса ўсіх грэшнікаў. У 1887г. у кармэль уступіла другая сястра Тэрэсы — Марыя.

Калі будучая сьвятая мела 15 гадоў, яна таксама прыйшла ў кляштар з просьбаю прыняць яе. Але ёй адмовілі, бо не хапала гадоў і, апрача таго, слабая здароўем дзяўчынка магла не вытрываць суровых умоў гэтага ордэна. Але Тэрэса не адступіла і ўгаварыла свайго бацьку паехаць разам з ёю ў Рым і папрасіць адмысловага дазволу ў Папы Рымскага. Але і Сьвяты Айцец Леў XIII не захацеў рабіць такога выключэньня. Таму Тэрэса ўступіла ў кляштар праз год. Яна адразу прыняла рашэньне: "Хачу быць сьвятою".

У 1889г. адбыліся яе аблучыны. Другой яе пастановай было: "Я прыбыла сюды, каб збаўляць душы, а перадусім, каб маліцца за сьвятароў". У 1890 годзе яна склала шлюбы і ўрачыстую прафесію. Праз тры гады была прызначана настаўніцай навіцыятак.

У 1896 годзе Тэрэса цяжка захварэла на сухоты. Нягледзячы на гэта, працягвала выконваць усе свае абавязкі: настаўніцы, закрыстыянкі, апякункі над адною старэнькаю сястрою. Зіма таго году была вельмі суровая, а кляштар не абаграваўся. Сьвятая Тэрэса перажывала сапраўдныя пакуты, але цярпела іх з выключнаю вынослівасьцю і пакораю. 30 верасьня 1897г. сьмерць спыніла яе пакуты. Перад сьмерцю сьвятая Тэрэса сказала, што яна будзе "арашаць зямлю дажджом ружаў", таму на абразах яна заўсёды з ружамі.

У 1923г. Сьвяты Айцец Пій XI абвясьціў яе блаславёнай, а праз два гады ўрачыста запісаў яе ў каталог сьвятых.

Матачка, які ж салодкі шлях любові! Вядома, можна ўпасьці, можна стаць нявернай. Ды любоў, умеючы з усяго ўзяць карысьць, хутка зьнішчае ўсё, што можа не падабацца Пану, пакідаючы ў глыбіні сэрца толькі пакорлівы і глыбокі спакой.

Ах, колькі сьвятла пачэрпнула я ў творах сьвятога Яна ад Крыжа! Калі мне было семнаццаць і васемнаццаць гадоў, у мяне не было іншага духоўнага пажытку. Але пазьней усе духоўныя пісьменьнікі пакідалі ўва мне адчуваньне сухасьці. І цяпер я ўсё яшчэ знаходжуся ў такім настроі. Калі я адкрываю кнігу, нават самую цудоўную, самую кранальную, маё сэрца ў тую ж хвіліну сьціскаецца і, чытаючы, я не магу нічога зразумець; а калі разумею, то мой розум спыняецца, і я не магу разважаць.

У гэтым бясьсільлі мне на дапамогу прыходзіць Сьвятое Пісаньне і "Насьледаваньне Хрысту". У іх я знаходжу ўтоеную манну, чыстую і добрай якасьці. Але найбольш падтрымлівае мяне ў часе разумовай малітвы Евангельле; там я чэрпаю ўсё, што патрэбна маёй малой душы. Я заўсёды адкрываю ў ім новае сьвятло, утоены і таямнічы сэнс. Я разумею і ведаю з вопыту, што Валадарства Божае – ўнутры нас. Езусу Хрысту не патрэбныя ні кнігі, ні вучоныя, каб павучаць нашыя душы. Ён, Настаўнік настаўнікаў, вучыць без гучных слоў. Ніколі я не чула, каб Ён гаварыў, але я ведаю, што Ён ува мне. Кожную хвіліну Ён кіруе мною і натхняе мяне. Менавіта ў той момант, калі мне гэта





патрэбна, я заўважаю, як робіцца зразумелым тое, што было мне дагэтуль невядомым. Найчасьцей мой духоўны пагляд асьвятляецца не ў малітоўныя гадзіны, але сярод штодзённых заняткаў.

Матачка, хіба пасьля гэткіх міласьцяў я не магу славіць Пана разам з Псальмістам: "Бо добры Ён, бо навекі ласка Ягоная" (Пс 118,1). Мне здаецца, калі б усе людзі атрымлівалі такую ж ласку, як і я, то ніхто больш не баяўся б Бога, але ўсе бязьмежна любілі б Яго; з любові, а не з боязі ніводная душа ніколі не ўчыніла б найменшага грэху.

Словам, мне зразумела, што ўсе душы не могуць быць падобныя адна на адну; трэба, каб яны былі розныя дзеля таго, каб кожная Боская дасканаласьць ушаноўвалася імі асобна. Мне Ён падарыў сваю бясконцую міласэрнасьць, і ў гэтым невымоўным адлюстраваньні я бачу іншыя Яго ўласьцівасьці. І тады ўсе яны мне здаюцца выпраменьваньнем любові; сама справядлівасьць, магчыма, нават больш за іншыя Яго якасьці здаецца мне апранутай у любоў. Якая ж гэта салодкая радасьць — думаць, што Пан справядлівы, гэта значыць, што Ён лічыцца з нашымі слабасьцямі, што Ён дасканала ведае ўсю немач нашае прыроды! Чаго ж мне тады баяцца? Бясконца справядлівы Бог, які з такою міласэрнасьцю пажадаў адпусьціць грахі марнатраўнаму сыну, ці не будзе Ён таксама справядлівы і да мяне, якая заўсёды з Ім?

У тым жа 1895 годзе я мела гонар атрымаць Божую ласку больш чым калі-небудзь зразумець, наколькі Пан Езус хоча быць любімым. Думаючы аднойчы пра душы, якія прыносяць сябе ў якасьці ахвяры Божай справядлівасьці дзеля таго, каб адхіляць прызначаныя для нас пакараньні, і прымаючы апошнія на сябе, я ўспрымала гэтую ахвярнасьць вялікай і высакароднай, але была далёкаю ад таго, каб адчуваць сябе пакліканай да яе.

"О мой Боскі Настаўнік! — усклікнула я з глыбіні сэрца. — Хіба толькі адной Тваёй справядлівасьці трэба прыносіць ахвяры цалапаленьня? Хіба не мае ў іх патрэбы і Твая міласэрная любоў? З усіх бакоў яе не прызнаюць, адмаўляюцца ад яе...; сэрцы, якім Ты хочаш дарыць яе, зьвяртаюцца да стварэньняў, у іх шукаюць мімалётнага замілаваньня, заміж таго, каб кінуцца ў Твае рукі і аддаць сябе ў салодкі горан Тваёй бясконцай любові.

Божа мой... Калі Твая справядлівасьць, якая распаўсюджваецца толькі на зямлю, схільная да адплаты, то наколькі ж болей жадае запальваць душы міласэрная любоў, бо ласка Твая ўзыходзіць да нябёсаў! О Езусе, няхай жа я буду шчасьліваю ахвяраю! Зьнішчы сваю маленькую ахвяру агнём Боскае любові".

Матачка! Вы, якая дазволіла мне прынесьці сябе такім чынам Пану Богу, Вы ведаеце струмені, альбо лепш сказаць, акіяны ласкаў, якія залілі маю душу адразу ж пасьля таго, як я прынесла сябе Яму ў дар 9 чэрвеня 1895 года... З гэтага дня Любоў пранізвае мяне і атуляе. Кожную хвіліну гэтая міласэрная Любоў мяне абнаўляе, ачышчае, не пакідае ў маім сэрцы і сьледу ад грэху. Не, я не магу баяцца чысца. Ведаю, што ў гэта месца адкупленьня я не заслугоўваю нават увайсьці разам са сьвятымі душамі. Але я ведаю таксама, што агонь любові лепш асьвячае, чымсьці агонь чысцовы. Я ведаю, што Пан Езус не можа жадаць нам непатрэбных пакутаў і што Ён не пасылаў бы мне жаданьняў, якія ёсьць ува мне, калі б Ён не хацеў задаволіць іх...

Вось, мая горача любімая матачка, усё, што я магу сказаць Вам пра жыцьцё Вашай маленькай Тэрэсы. Вы і без гэтага ведаеце, што яна ўяўляе сабой і што Пан Езус зрабіў для яе. Таму даруйце мне, калі я моцна скараціла аповесьць пра яе манаскае жыцьцё.

Як скончыцца гэтая "Аповесьць пра маленькую белую кветачку"?..

Магчыма, гэтая маленькая кветачка будзе сарвана яшчэ сьвежаю альбо будзе перасаджана на іншыя берагі... Гэтага я не ведаю; але я ўпэўненая, што Божая міласэрнасьць заўсёды будзе з ёю, што яна ніколі не перастане благаслаўляць маці, якая аддала яе Пану Езусу.

Вечна будзе яна радавацца таму, што яна — адна з кветачак Яго кароны; вечна будзе яна разам з гэтай любімай маці сьпяваць заўсёды новую песьню любові і ўдзячнасьці.

*Пераклад А.БАРТКЕВІЧ*

# Дождж з Ружаў

Андрэ Фрасар у сваёй кнізе "Соль зямлі" напісаў, што супрацьпаставіць шматлікім пасьлядоўнікам "Камуністычнага маніфесту" можна, хіба што, унушальны натоўп навернутых "Гісторыяй адной душы" сьвятой Тэрэсы ад Дзіцятка Езус. Гэтыя словы французскага пісьменьніка ўзгадаліся ў старажытным Мядзельскім касьцёле, куды сабраліся тутэйшыя вернікі, госьці з іншых парафій Беларусі, каб ушанаваць памяць аб сьвятой Тэрэсе.

3—4 кастрычніка ў Мядзелі і Нарачы шырока адзначалася 100 гадоў з таго дня, калі сьвятая Тэрэса ад Дзіцятка Езус зьмяніла свой жыцьцёвы шлях законьніцы кармелітанкі на нябесны. "Гатовая праліць апошнюю кроплю крыві за сцьверджаньне, што ёсьць толькі адно неба", — сказала неяк гэтая мужная кармелітанка. Па нашых, чалавечых, мерках, яна пражыла вельмі мала — усяго 24 гады. Яна адважна вызнавала свайго Пана і любіла Яго бясконцай, надпрыроднай любоўю. Пра ўсё гэта напісала ў сваёй кнізе "Гісторыя адной душы", той самай, што была перакладзена на семдзесят моваў сьвету і навярнула так шмат людзей да Бога.

У Мядзелі і Нарачы яе пяшчотна называюць Тэрэскай, так, як гавораць пра вельмі блізкага і роднага чалавека. Да яе моляцца літанію, навэнну, асобныя малітвы, сьпяваюць прыгожыя песьні, ёй давяраюць самае патаемнае. У гэтай вялікай, непасрэднай любові ёсьць штосьці ад самой сьвятой Тэрэсы, ад яе дабрыні, пакорлівасьці, вялікай любові да Бога і да ўсіх, хто сустрэўся на яе жыцьцёвым шляху.

Кожны раз да таго, як распачнецца Сьвятая Імша ў Мядзельскім касьцёле, тут абавязкова ўбачыш некалькі чалавек, якія кленчаць перад фігурай сьвятой Тэрэсы. Можна было б сказаць, што нічога дзіўнага ў гэтым няма, бо сьвятая Тэрэса надзвычай моцна шануецца ў каталіцкім сьвеце. І ўсё ж у нас часта бывае не так, як у сьвеце. Асабліва, калі ўлічыць, што, да прыкладу, у тым жа Мядзельскім касьцёле ў свой час была... канюшня. Ваяўнічы атэізм любіць рабіць хлявы ў сьвятынях. Гэта ягоны стыль "клопату пра будучыню". Дзякуй Богу, добрыя людзі паклапаціліся і зьбераглі многія каштоўнасьці: надзвычай прыгожы крыж з фігурай Езуса Міласэрнага, фігуру сьвятой Тэрэсы — дакладную копію фігуры, якая знаходзіцца на радзіме сьвятой, у г.Лізье, у Францыі. Захаваліся і некаторыя абразы. Усё гэта было перавезена ў Нарачанскі касьцёл. У Нарачы ж за гэты час сьвятую Тэрэсу вельмі палюбілі, і таму зразумела, як цяжка было мясцовым вернікам разьвітвацца з гэтымі каштоўнасьцямі пасьля таго, як у Мядзелі зноў расчыніў свае дзьверы касьцёл кармелітаў. І ўсё ж, вярнуўшы рэліквіі, яны не пабяднелі, але, наадварот, пабагацелі ўсё на тую ж любоў да Бога і бліжняга. У Нарачы ж па-ранейшаму любяць і шануюць сьвятую Тэрэсу, а можа, цяпер нават яшчэ і мацней.

19 кастрычніка Папа Рымскі Ян Павел II абвясьціў сьвятую Тэрэсу ад Дзіцятка Езус Доктарам Касцёла. Яна стала трэцяю жанчынаю ў сьвеце, якая заслужыла гэтае высокае званьне. Раней яго атрымалі сьвятая Кацярына Сьенская, а таксама сястра кармелітка, сьвятая Тэрэса Пвільская, вядомыя глыбінёй тэалагічнай думкі, духам навучаньня, вялікай духоўнасьцю і адданасьцю Пану Богу.

Нядаўна біскупа горада Лізье запыталі, што гэта значыць, быць Доктарам Касьцёла? Ён з лёгкім гумарам адказаў, што доктар, як вядома, лечыць людзей. Гэткую ж задачу выконвае і сьвятая Тэрэса, бо тыя, хто па-сапраўднаму, сэрцам прыходзяць да яе са сваім клопатам, пачынаюць лепш сябе адчуваць. Таму можна сказаць, што яна — сапраўдная лекарка чалавечых душаў.

Дзе, адкуль, з якой крыніцы гэтая слабая на выгляд жанчына, якой дакучалі цяжкія хваробы, адкуль яна чэрпала тую моц, што і цяпер, праз гады здольная аздараўляць збалелыя душы з розных канцоў зямлі?

"Я прагну быць сьвятой, але ведаю маю слабасьць і прашу Цябе, о мой Божа, каб Ты быў маёй сілай і сьвятасьцю". Гэтыя словы французскай дзяўчынкі Тэрэсы, сказаныя ёю напачатку кароткай, але такой яркай, імклівай дарогі, якую можна назваць узьлётам да сьвятасьці, усё тлумачаць. Сьвятая Тэрэса належала да таго самага кармэлю, які на працягу доўгіх стагоддзяў чэрпае сваю моц са знакамітага выслоўя прарока Ільлі: "Жыве Бог, прад Абліччам якога я стаю". У гэтых словах — сутнасьць кармэлю, сэнс жыцьця і службы кармелітаў. І гэты высокі сэнс пасьля гадоў ганьбаваньня і зьдзеку з сьвятыні зноў жыве ў Мядзелі, на тым самым месцы, дзе даўным-даўно маліліся таямнічыя законьнікі кармеліты. Пастаянная памяць пра тое, што чалавек заўсёды знаходзіцца ў Божай Прысутнасьці, рупліва падтрымліваецца тут а.Аркадзіем і ягонымі братамі кармелітамі, якія даволі часта прыязджаюць сюды. Не былі выключэньнем і сёлетнія ўрачыстасьці ў гонар сьвятой Тэрэсы. Знарок дзеля гэтай падзеі прыехаў і правінцыял Варшаўскай правінцыі кармелітаў айцец Ян Напамуцан. Ён і справаваў урачыстую Сьвятую Імшу ў Мядзелі.

— Сёньняшняму сьвету так моцна не стае любові, усе мы адчуваем прагу яе, — сказаў ён у часе казаньня. — Сваркі і звадкі, нянавісьць, якая запанавала сярод людзей, іншы раз наводзяць на думку, што, можа, цяпер і выконваюцца словы Езуса Хрыста пра тое, як паўстане брат супраць брата. Варожасьць пануе паміж блізкімі і роднымі людзьмі, сябрамі, паміж цэлымі народамі. Чалавек змучыўся, яму катастрафічна не хапае любові. Сам ён развучыўся любіць па-сапраўднаму, бескарысьліва, не патрабуючы за гэта заплаты. Будзем жа памятаць, што навучыць нас гэтай сапраўднай любові можа сьвятая Тэрэса. Найперш таму, што сама яна вельмі моцна любіла Езуса, умела любіць Яго ва ўсіх тых людзях, якія жылі побач з ёй.

У часе двухдзённых урачыстасьцяў шмат давялося пачуць пра гэтую вялікую прагу і патрэбу любові ў самых розных жыцьцёвых сітуацыях, выпрабаваньнях, цярпеньнях. Усё гэта — на прыкладзе жыцьця сьвятой Тэрэсы, якая са сваёй нябеснай вышыні і надалей вучыць нас любіць. Тыя зернейкі вышэйшай навукі, калі яны падаюць на падрыхтаваную, добра і дбайна апрацаваную глебу, даюць свае прыгожыя плады. Пра гэта падумалася ў Нарачы, ужо пасьля ўсіх урачыстасьцяў. І нават не таму, што мясцовыя вернікі шмат маліліся, але таму, што адчулася тое штосьці няўлоўнае, асабліва прыгожае, што прысутнічае ў асяроддзі вернікаў і ў Мядзелі, і ў Нарачы. Дабрыня і прыгажосьць адносінаў бачныя нават у такіх, здавалася б, дробязях, што ў цеснаце, у шматлюдным натоўпе не давялося сустрэць ніводнага непрыветнага, незадаволенага твару, не было чуваць ніводнай злоснай заўвагі альбо нараканьня. Гэта адчулася і ў лёхах Мядзельскага касьцёла, дзе раптоўна застываеш перад фігурай Хрыста, змучанага катаваньнямі, перад старасьвецкім крыжам у шчодрым атачэньні кветак — і тады адразу ўзгадаеш тыя пялёсткі ружаў, якімі сьвятая Тэрэса з любоўю абсыпала свайго вечнага абраньніка — Укрыжаванага. Адчувалася гэта на Мядзельскай Кальварыі, чые крыжы зноў, праз шмат гадоў клічуць вернікаў на гарысты ўзьлесак за горадам, туды, дзе некалі стаялі каплічкі і дзе продкі абыходзілі Крыжовы Шлях Збавіцеля. Прысутнасьць непаказной любові адчувалася і ў песьнях, прысьвечаных сьвятой Тэрэсе, якія так прыгожа сьпяваюць у Нарачы, у тым, з якой пашанай сустракалі мясцовыя вернікі Апостальскага нунцыя арцыбіскупа Дамініка Грушоўскага, у тых кветках, што ўпрыгожвалі дамы і вуліцы нарачанцаў у гэтыя дні. Зрэшты, у той пранікнёнай цеплыні, з якой а.Аркадзій распавядаў мне пра сваіх парафіянаў.

Дык у чым жа тут сакрэт? Ці не ў той жа сьвятой Тэрэсе ад Дзіцятка Езус, якая вучыла, вучыць і, здаецца, ужо шмат чаму навучыла тых, хто яе ўшаноўвае і моліцца да яе? Можа, гэта яна, сьвятая Тэрэса, дапамагла ўсталяваць і добрыя, прыязныя адносіны паміж айцом Аркадзіем і мясцовым праваслаўным духавенствам, мясцовымі ўладамі? Згадзіцеся, шаноўныя чытачы, не часта сустрэнеш на каталіцкіх сьвятах праваслаўнага сьвятара, які да таго ж яшчэ і прамаўляе да вернікаў, дзеліцца з імі найлепшымі пачуцьцямі. І наадварот: а.Аркадзій таксама часта бывае на ўрачыстасьцях у мясцовых цэрквах. Шмат аб чым гаворыць і факт прысутнасьці на сьвяце прадстаўнікоў мясцовых уладаў.

Убачыўшы на свае вочы і адчуўшы ўсё гэта, захацелася пашырыць межы дабрыні, якую пасылае на зямлю сьвятая Тэрэса. Зьвярнулася да а.Аркадзія з просьбай сказаць некалькі слоў чытачам "Ave Maria".

— Усім чытачам з нагоды ўрачыстасьцяў у гонар сьвятой Тэрэсы жадаю зразумець, што чалавек мае доступ да Пана Бога ў кожнай жыцьцёвай акалічнасьці, жадаю, каб яны ўсьвядомілі, што без Пана Бога мы не зможам нічога дасягнуць. Гэта трэба ўсім нам добра ўсьвядоміць напрыканцы XX стагоддзя, так, як напрыканцы XIX стагоддзя гэта ўсьвядоміла сьвятая Тэрэса. Галоўнае ў нашым жыцьці — Бог, любоў да Пана Бога, з якой паходзіць і любоў да бліжняга.

...Вобраз сьвятой Тэрэсы найчасьцей асацыюецца з ружамі — кветкамі дзівоснай красы і водару. Менавіта ружы мы бачым на абразах сьвятой, бо гэтыя кветкі яна дарыла Таму, Хто быў ёй найдаражэйшы. "Нічога і ніколі я не давала Богу, апрача любові, — казала яна. — Ён адплоціць мне любоўю. Пасьля сьмерці я акраплю зямлю даждж͏ом з ружаў". На пытаньне адной законнай сястры, да чаго найбольш імкнецца душа сьвятой Тэрэсы, тая, ужо знаходзячыся на сьмяротным ложы, горача адказала: "Любіць. Быць любімай і вярнуцца на зямлю, садзейнічаць таму, каб людзі любілі Любоў".

Трэба сказаць, што сьвятая Тэрэса трымае свае слова. Верыцца, што той дождж з ружаў, чые пялёсткі ператвараюцца ў найлепшыя пачуцьці і ўчынкі вернікаў, безумоўна, у свой час прайшоў над Мядзелем і Нарачу, дзе так любяць і шануюць сьвятую Тэрэсу ад Дзіцятка Езус — сваю Тэрэску.

*Ірына* ЖАРНАСЕК



СКАРБЫ СЬВЯТОЙ ДУМКІ



***Шаноўныя чытачы! Мы адкрываем у нашым часопісе новую рубрыку - "Скарбы сьвятой думкі". Пад ёй мы будзем друкаваць урыўкі з працаў, асобныя выказваньні тых, хто некалі жыў на нашай грэшнай зямлі і сваім верным адданьнем, службай Пану Богу заслужыў вечную хвалу алтара ў небе. Многія са сьвятых пакінулі нашчадкам свае працы, кнігі, якія ўяўляюць сабой неацэнны скарб. Мы павінны карыстацца гэтым скарбам дзеля ўмацаваньня нашай веры, духоўнага ўзрастаньня і дасканаленьня.***

***Прапануем вашай увазе ўрывак з кнігі вялікага містыка і марыёлага XVIIIст. сьвятога Людвіка Марыі Грыньён дэ Мантфорта "Дзівосны сакрэт сьвятога Ружанца", у якой з выключнай глыбінёй асьвятляецца таямніца Божага Провіду і Апекі над людзьмі.***

# Праваднiца ў нашым плаваньні

Напісана: "Давайце і будзе вам дадзена" (Лк 6, 38). Згадаем благаслаўёнага Алана: "Калі б я кожны дзень даваў табе сто пяцьдзесят дыяментаў, нягледзячы на тое, што ты быў маім непрыяцелем, і тады ты не прабачыў бы мне? Калі хочаш абагаціцца дабром ласкі і хвалы, вітай Найсьвяцейшую Панну, ушаноўвай тваю добрую Маці". Нібы зьбіральнікам скарбаў ёсьць той, хто шануе сваю Маці (Сір 3, 5), Найсьвяцейшую Панну.

Пашліце Ёй кожнага дня прынамсі пяцьдзесят "Вітай, Марыя": кожная з іх складаецца з пятнаццаці каштоўных камянёў, даражэйшых Ёй за ўсе багацьці зямлі. Чаго ж вы можаце чакаць у той час ад Яе шчодрасьці? Яна — наша Маці, прыяцелька, Каралева сусьвету і любіць нас мацней за ўсіх матак і нявестаў, якія любяць сьмяротнага чалавека. Бо кажа сьвяты Аўгустын: "Любоў Найсьвяцейшай Панны перавышае натуральную любоў усіх людзей і ўсіх анёлаў".

Аднойчы наш Пан аб'явіўся сьвятой Гертрудзе. Ён перабіраў у руках залатыя манеты, і яна асьмелілася запытаць, што Ён лічыць. "Лічу, — адказаў Езус, — твае "Вітай, Марыя", гэтыя манеты здабываюць маё неба".

Пабожны і мудры Суарэз з Таварыства Езуса вельмі цаніў Анёльскае Прывітаньне і зазвычай паўтараў: "Ахвотна аддаў бы ўсе мае веды за кошт аднаго, добра прамоўленага "Вітай, Марыя".

Благаслаўёны Алан так гаворыць пра гэтую малітву: "Той, хто Цябе любіць, о Маці Божая, няхай паслухае і няхай усьцешыцца. Неба радуецца, зямля зьдзіўляецца заўсёды, калі я прамаўляю "Вітай, Марыя". Ненавіджу сьвет, Божая любоў валадарыць у маім сэрцы, калі я прамаўляю "Вітай, Марыя". Узрастаю ў пабожнасьці, знаходжу жаль за грахі, калі кажу "Вітай, Марыя". Мая надзея ўмацоўваецца, узрастае суцяшэньне, калі я прамаўляю "Вітай, Марыя". Радуецца мая душа, зьнікае мой смутак, калі я прамаўляю "Вітай, Марыя". Настолькі вялікая слодыч гэтага цудоўнага прывітаньня, што чалавечае слова не здолее гэтага выказаць. Адсюль і тое, што хоць і выказаны яго цуды, яно ўсё роўна застаецца настолькі таямнічым і загадкавым, што не паддаецца ніякаму дасьледваньню. "Вітай, Марыя" — кароткая на словах малітва, але ж наколькі глыбокая ў сваёй таямніцы! Яна саладзейшая за мёд і каштоўнейшая за золата! О, будзем жа нястомна мець яе ў сваім сэрцы — каб разважаць над ёй, на вуснах — каб прамаўляць і пабожна паўтараць яе".

Благаслаўёны Алан дэ Рупэ ў сваім Псалтыры прыводзіць такі прыклад. Адна законьніца вызначалася асаблівым набажэнствам Ружанца. Пасьля сваёй сьмерці яна зьявілася сястры па закону і сказала ёй: "Калі б я магла вярнуцца да жыцьця, каб прамовіць толькі адно "Вітай, Марыя"... згадзілася б ахвотна зноў на ўвесь боль, які выцерпела праз гады. Каб толькі мець заслугу гэтае малітвы!".

Міхал дэ Ліль, вучань і калега благаслаўёнага Алана, узнаўляючы практыку сьвятога Ружанца, сцьвярджае, што Анёльскае Прывітаньне, пабожна прамоўленае ў гонар Найсьвяцейшай Панны, зьяўляецца лекам ад усялякага зла.

КАЛІ ВАС НАПАТКАЛА НЯШЧАСЬЦЕ — клічце на дапамогу Маці Божую, бо "Вітай, Марыя" азначае: вітаю Цябе з найвялікшай пакорай, бо Ты без грэху і яго вынікаў. І яна вызваліць вас ад нэндзы вашых грахоў.

КАЛІ ВЫ ЗНАХОДЗІЦЕСЯ Ў ЦЯМРЭЧЫ НЯВЕДАНЬНЯ АЛЬБО ПАМЫЛАК — зьвярніцеся да Марыі і скажыце Ёй "Вітай, Марыя". Гэта будзе азначаць: асьвяці мяне сонечным промнем спраядлівасьці. І Яна дазволіць вам удзельнічаць у сваім сьвятле.

ВЫ ЗАБЛУДЗІЛІСЯ? ВЫ ЗНАХОДЗІЦЕСЯ НЕ НА ШЛЯХУ ДА НЕБА? Сьпяшайцеся да Марыі, скажыце Ёй: "Вітай, Марыя". Гэта будзе азначаць: зорка марская, зорка палярная, праваднiца ў нашым плаваньні па гэтым сьвеце. І Яна прывядзе вас да порту вечнага збаўленьня.

ЦЯЖКІ КЛОПАТ АГАРНУЎ ВАС? Прасіце Марыю. Марыя — азначае горкае мора, поўнае горычы. Яна была ім аднойчы на гэтым сьвеце, але цяпер у небе Яна ёсьць морам чыстае слодычы. І Яна заменіць ваш смутак радасьцю, ваш клопат суцяшэньнем.

ВЫ СТРАЦІЛІ МОРА ЛАСКІ? Ушаноўвайце шчодрасьць ласкаў, якімі Бог напоўніў Найсьвяцейшую Маці. Кажыце Найсьвяцейшай Маці: "Ты поўная ласкі і дароў Духа Сьвятога". І Яна ўчыніць вас удзельнікамі гэтых ласкаў.

ВЫ ЧУЕЦЕ СЯБЕ САМОТНЫМІ, НІБЫ ПАКІНУТЫМІ БОГАМ? Зьвярніцеся да Марыі, скажыце Ёй: "Пан з Табою больш годна і інтымна, чымсьці ў справядлівых і сьвятых, бо Ты — амаль што адно з Ім. Бо хіба не ёсьць Ён Тваім Сынам? Хіба Яго Цела — не Тваё цела? А паколькі Ты Яго Маці, ці ж Ты не ёсьць з Панам у дасканалым падабенстве і ва ўзаемнай любові?" Скажыце яшчэ Ёй: "Уся Найсьвяцейшая Тройца ёсьць з Табою, бо Ты Яе каштоўная Сьвятыня". І Яна ўчыніць так, што Пан возьме вас пад сваю апеку і будзе аберагаць вас.

АЛЬБО СТАЛІСЯ ВЫ, НІБЫ ПРАКЛЯТЫЯ БОГАМ? Скажыце Найсьвяцейшай Панне Марыі: "Благаслаўёная Ты паміж усімі жанчынамі і праз усе народы з прычыны Тваёй чысьціні і плоднасьці. Дзякуючы Табе Божае праклёцьце было заменена на благаслаўленьне". І Яна вас паблагаславіць.

МОЖА ВЫ ЧУЕЦЕ ГОЛАД ПА ХЛЕБЕ ЛАСКІ, ХЛЕБЕ ЖЫЦЬЦЯ? Падыдзіце да Той, якая насіла Жывы Хлеб, каторы зышоў з неба, і скажыце Ёй: "Благаслаўёны плод улоньня Твайго Езус, якога Ты зачала, застаўшыся дзявіцай, без цяжару насіла і нарадзіла без жаднага болю! Няхай будзе благаслаўёны Езус, які адкупіў зьняволены сьвет, аздаравіў хворы сьвет, уваскрасіў чалавека-выгнаньніка, апраўдаў вінаватага чалавека, збавіў асуджанага чалавека!" Няма ніякага сумніву, што вашая душа будзе насычана хлебам ласкі ў гэтым жыцьці і вечнае славы ў будучым.

Закончыце вашу малітву з Касьцёлам і прамаўляйце: "Сьвятая Марыя, сьвятая целам і душою, сьвятая праз Тваё выключнае і вечнае пасьвячэньне службе Богу. Сьвятая, бо Ты — Маці Бога, які абдарыў Цябе незвычайнай сьвятасьцю, як і трэба для Тваёй бясконцай годнасьці".

"О Маці Божая", Ты зьяўляешся таксама і нашай Маці, нашай Заступніцай і Пасрэдніцай, Скарбніцай і Раздатчыцай Божых ласкаў, упрасі нам адпушчэньня нашых правінаў і паяднаньня з Божай Веліччу.

Так, "маліся за нас, грэшных", Ты, поўная літасьці да бедных, Ты, якая не пагарджаеш і не адкідваеш ад сябе грэшнікаў, без каторых Ты не была б Маці Збавіцеля. Маліся за нас "цяпер", падчас гэтага кароткага, слабога і мізэрнага жыцьця, цяпер, бо мы маем пэўнасьць толькі ў гэтай хвіліне, цяпер, бо ўдзень і ўначы нас атачаюць і нападаюць на нас магутныя непрыяцелі.

"І ў хвіліну сьмерці нашай", гэткай страшнай і небясьпечнай, калі нашыя сілы будуць вычарпаныя, а душа і цела будуць таксама зламаныя цярпеньнем і страхам, у хвіліну нашае сьмерці, калі шатан падвоіць свае высілкі з мэтаю вечнай нашай загубы, у хвіліну, калі будзе вырашацца наш лёс на цэлую вечнасьць, — шчасьлівую альбо нешчасьлівую.

О, прыйдзі ж з дапамогай да сваіх бедных сыноў, Маці літасьцівая, заступніца і прытулак грэшнікаў; аддалі ад нас у тую хвіліну шатанаў, нашых вінаваўцаў і нашых непрыяцеляў, чый страшны выгляд напаўняе нас страхам; прыйдзі, расьсей нам цемру сьмерці і правядзь нас, будзь з намі пры трыбунале нашага Суддзі, Твайго Сына, і заступіся за нас, каб Ён прабачыў нам і прыняў нас да сваіх выбраных, у месца вечнае хвалы. Амэн. "Няхай жа так станецца".

Каго ж не зьдзіўляе прыгажосьць сьвятога Ружанца, складзенага з гэтых дзьвюх Боскіх частак — Малітвы Панскай і Анёльскага Прывітаньня?! Альбо можа ёсьць больш прыемныя малітвы Богу і Найсьвяцейшай Паньне? Лягчэйшыя, мілейшыя і тыя, што больш дапамагаюць вам? Будзем жа нястомна мець іх у сэрцы і на вуснах, каб ушаноўваць Найсьвяцейшую Тройцу, Езуса Хрыста, нашага Збавіцеля і Яго Найсьвяцейшую Маці.

*Пераклад І.С.*

# КАСЬЦЁЛ СЬВЯТОГА АНДРЭЯ БАБОЛІ Ў ПОЛАЦКУ

"...20 верасьня 1997 года, калі Папам Рымскім быў Ян Павел II, апостальскім нунцыем арцыбіскуп Дамінік Грушоўскі, біскупам Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі кардынал Казімір Сьвёнтэк, пробашчам парафіі сьвятога Андрэя Баболі ў Полацку ксёндз-дэкан Францішак Кісель, быў кансэкраваны новазбудаваны касьцёл сьвятога Андрэя Баболі, аб чым і сьведчаць наступныя подпісы..." Прачытаны акт кансэкрацыі касьцёла, ставяцца подпісы, вернікі ў перапоўненай сьвятыні затаілі дыханьне. На вачах у многіх блішчаць слёзы, цяпер гэта ўжо сьлёзы радасьці...

Вось і дачакаліся полацкія католікі гэтага дня — сівая гісторыя старажытнага горада пабагацела яшчэ на адну сьвятыню. Некалі Полацк быў багаты на сьвятыні. Не цесна было ў ім праваслаўным, католікам, пратэстантам, іудзеям... Толькі ў Полацку і ў яго ваколіцах было 6 мураваных і 4 драўляных касьцёлы. Было тое два стагоддзі таму. У XIXст. расейскі ўрад пачаў наступ на каталіцкія сьвятыні: у Полацку былі скасаваныя бернардынскія і францішканскія кляштары, касьцёл айцоў бернардынаў перабудаваны пад царкву, а францішканскі касьцёл сьв.Антонія зьнішчаны. Быў зачынены езуіцкі калегіум, зьнішчаны ўсе культурныя і асьветніцкія ўстановы гэтага ордэна, ліцэй айцоў піяраў быў зачынены, велічны касьцёл сьв.Стэфана перабудаваны пад Мікалаеўскі праваслаўны сабор. Дамініканскі касьцёл Найсьвяцейшай Панны Марыі Ружанцовай — апошні парафіяльны касьцёл Полацка — быў сьцерты з аблічча зямлі ў 60-х гадах нашага стагоддзя.

Трагічны лёс напаткаў і апошняга полацкага ксяндза Лук'яніна, чыё сьвятарскае служэньне спынілася на Вялікдзень 1933 года, калі проста з урачыстае Літургіі ён быў забраны ў "чорны воран" НКВД. Ягоныя сьляды так і згубіліся сярод лагерных сталінскіх сьнягоў.

У 50-х гадах нашага стагоддзя адзін толькі ўспамін пра Полацк наганяў жах на многіх і многіх католікаў з заходніх раёнаў Віцебшчыны. Бо менавіта сюды, у Полацк, у турму НКВД праляглі шляхі большасьці сьвятароў з Мёршчыны, Браслаўшчыны, Глыбоччыны, Пастаўшчыны. Тут яны атрымлівалі вырак, часта гэта былі 25 гадоў зьняволеньня. Адсюль, з Полацка, пачыналіся іхнія пакутлівыя шляхі ў нялюдскія сталінскія лагеры. Не білі трывожна званы полацкіх касьцёлаў у тыя дні — не было дзе званіць. Ды і страх скаваў людскія душы на доўгія гады. І ўсё ж асобныя вернікі не адступіліся: і шлюбы бралі ў аддаленых касьцёлах, і дзяцей хрысьцілі, і душы свае ачышчалі то ў Глыбокім, то ў Задарожжы, то ў Мёрах... Было гэта патаемным своеасаблівым вызнаваньнем веры. І менавіта дзякуючы гэтаму каталіцкая вера не загінула ў Полацку.

...У канцы 80-х гадоў, у часе перабудовы, некалькі чалавек пайшло па кватэрах Полацка ды Наваполацка — шукаць братоў па веры. Многія з тых, што адчынялі перад імі дзьверы, зьдзіўлена перапытвалі: "Католікі? Не чулі. Не, у Полацку толькі праваслаўныя. Адкуль тут могуць быць католікі — касьцёлаў жа няма!" Але сьмелыя, настойлівыя жанчыны не адступаліся, і ў рэшце рэшт яны знайшлі тых, каго шукалі. Напачатку іх было вельмі мала, але ўсё ж яны наважыліся маліцца разам. Праз нейкі час запрасілі да сябе ксяндза і проста пад адкрытым небам, каля сьценаў прыгажуні Сафіі, над водамі Дзьвіны ўзьляцелі ў неба словы: "Пане, зьмілуйся над намі! Хрыстэ, зьмілуйся над намі!.."

Так адбылася першая пасьля доўгага перапынку Сьвятая Імша ў Полацку. Гэта і сталася пачаткам адраджэньня каталіцкай веры на Полаччыне. Кожны дзень, ці ішоў дождж, ці сыпаў на іхнія галовы сьнег, яны прасілі Бога: "Пане, зьмілуйся над намі!.." У той час разам з імі маліўся, удзяляў патрэбныя сакрамэнты, дзяліў іхні лёс айцец дамініканін Януш Скэнчэк. Знайшліся такія-сякія памяшканьні, цесныя, няўтульныя, але гэта было ўжо першымі промнямі Божае ласкі. Парафія неўпрыкмет пашыралася, у яе ўлілася моладзь. А потым над католікамі зьлітаваліся гарадскія ўлады і перадалі ім у карыстаньне будынак старога кінатэатра. І гэта было ўжо вялікай перамогай веры над бязьвер'ем, праўды над няпраўдай. Пробашчам Полацка і Наваполацка быў прызначаны ксёндз Францішак Кісель, які і ўзяў на сябе адказнасьць за будову касьцёла.

Будаваць на новым месцы лягчэй, чымсьці перабудоўваць са старога — гэта добра зразумелі мужчыны і жанчыны, якім давялося разьбіраць старыя сьцены, абчышчаць кожную цагліну, вывозіць грузавікі друзу ды сьмецьця. Усе гэта добра разумелі. Але кожны вечар, выцершы пыл ды пот з твару, яны дзякавалі на Сьвятой Імшы Пану Богу за гэтае месца, за магчымасьць маліцца і будаваць сьвятыню. Здаралася, што зімою ў часе набажэнстваў на алтары замярзала вада. Што ўжо казаць, як пачувалі сябе ў гэтым няветлым холадзе сьвятар і яго парафіяне!

Дзеля таго, каб касьцёл у Полацку стаў такім, якім ён выглядае цяпер, патрэбны былі малітва, праца, сродкі. На малітву ды працу і сьвятар, і парафіяне былі гатовыя, але патрэбных сродкаў не было. І тады Пан Бог пакіраваў так, што зусім у іншай краіне, у Германіі, у горадзе Фрыдрыхсхафене знайшліся людзі, якія зразумелі патрэбы полацкіх католікаў і пажадалі дапамагчы сродкамі. І таму зразумела, што ў дзень кансэкрацыі касьцёла вельмі дарагімі гасьцямі былі пробашч і прадстаўнікі парафіі сьв.Пятра Канізіуса, прадстаўнікі ўладаў гэтага горада. Цалкам зразумелая тая сардэчнасьць, з якою і вернікі, і сьвятар віталі дэлегацыю нямецкага горада.

— Мы вельмі просім вас, — сказаў у прывітальным слове ксёндз Францішак, — перадаць нашыя шчырыя словы ўдзячнасьці ўсім тым жыхарам вашага горада, хто нам дапамагаў. Скажыце ім, што ў Полацку пабудаваны касьцёл, а значыць, і аднавілася справядлівасьць. У многім гэта адбылося, дзякуючы вам. Няхай жа добры Пан Бог узнагародзіць вас за гэта!

Быў у складзе нямецкай дэлегацыі і Карл Фрэнкель, які ўжо не адзін год напярэдадні Божага Нараджэньня прысылае ўсім полацкім дзецям сьвяточныя падарункі. Для касьцёла ён зрабіў дарагі падарунак — 800-кілаграмовы звон, які штодня звоніць у Полацку на "Анёл Панскі" і абвяшчае сьвету, што насуперак войнам і ліхалецьцям, насуперак тэрору і ўсялякаму дзікунству Божая праўда яснай паходняй сьвеціць над гэтай грэшнай зямлёй.



Невыпадкова Полацкі касьцёл узяў сабе імя сьвятога Андрэя Баболі. Пэўны час цела гэтага пакутніка за праўду і веру захоўвалася ў полацкіх касьцёлах, і з розных куткоў Беларусі да яго ішлі пілігрымы, шукалі падтрымкі, заступніцтва. Культ гэтага сьвятога вельмі папулярны ў Беларусі. Найперш таму, што сваім жыцьцём, службай Богу і людзям, сваёй верай ажно да пакутніцкай сьмерці ад рук мучыцеляў Андрэй Баболя сьцвердзіў: з-пад попелу і друзу, з-пад развалінаў разбураных сьвятыняў, з палотнаў зьнявечаных абразоў, праз турмы, сьнягі і завеі нялюдскіх лагераў Божая праўда вяртае людзей да Бога — адзінай праўды і велічы. Касьцёл жа сьвятога Андрэя Баболі ў Полацку зьяўляецца выразным сьведчаньнем гэтай непераможнай праўды і вечнага сьвятла.

Пра ўсё гэта, мабыць, думаў не адзін вернік у часе Сьвятой Імшы ў Полацкім касьцёле сьвятога Андрэя Баболі, у хвіліны, калі Яго Эмінэнцыя біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі кардынал Казімір Сьвёнтэк намашчаў сьвятым алеем алтар, сьцены касьцёла, у часе прачытаньня акту кансэкрацыі: "20 верасьня 1997 года, калі Папам Рымскім быў Ян Павел II..."

У гэты дзень у касьцёле сьвятога Андрэя Баболі немагчыма было нават укленчыць, а многія вернікі, не змогшы праціснуцца ў касьцёл, маліліся на дворы. Здаецца, усе прысутныя ўсьведамлялі важнасьць, гістарычнасьць гэтай падзеі: у старажытным Полацку, бацьку гарадоў беларускіх, зноў адноўлена справядлівасьць: тут зноў ёсьць каталіцкая сьвятыня — касьцёл сьвятога Андрэя Баболі.

***Ірына ЖАРНАСЕК***

Фотарэпартаж Анатоля КЛЕШЧУКА з урачыстае кансэкрацыі касьцёла сьвятога Андрэя Баболі ў Полацку – на 4-й стар.вокладкі.





*"Благаславёны той законьнік, які мае задавальненьне і радасьць толькі ад найсьвяцейшых слоў і спраў Пана і вядзе праз іх людзей да любові Бога ў радасьці і весялосьці".*
*(Напамін 20, 1-2)*

# ПРАЗ ФРАНЦІШКА НАБЛІЖАЦЬ СЬВЕТУ ХРЫСТА



У нашай памяці ён жыве як сьвяты і паэт, сябра птушак і ўсяго жывога, адданы хворым і бедным, сардэчны, шляхетны і міласэрны. Ён — чалавек Любові і Хараства – жадаў толькі аднаго, каб сьвет урэшце стаў домам для ўсіх. Але гэта вымагала вялікай ахвярнасьці. Францішак няпроста ўвайшоў у гісторыю. Яго сустрэлі цяжкасьці і перашкоды. Пакутамі і ахвярнасьцю пазначана яго дарога.

Нарадзіўся ён у 1182 годзе ў Асізі, у горадзе, разьмешчаным на гары. А быў тады час войнаў і спрэчак, забаў і гандлю. Усюды чулася пра крыжовыя паходы, пра ўнутраныя сутычкі, усюды лілася кроў і чыніўся гвалт. І як тут было выйсьці з Евангельлем у руцэ і з любоўю ў сэрцы? Але на дарозе сустрэліся Францішку жабрак і пракажоны. Пазьней знайшоўся касьцёлік сьвятога Даміяна і Божай Маці Анёльскай. Дапамаглі таксама і любая родная матуля, і зычлівы біскуп. А ўкрыжаваны Хрыстус не змог маўчаць, бачачы Францішкавы пакуты і сумненьні: Ён прамовіў да яго проста з Крыжа, падтрымаў і даў парады.

Потым настаў 1209 год, калі Папа Рымскі Інакенці III зацьвердзіў статут законьніцкага жыцьця. Пачалі прыходзіць шматлікія вучні, законьнікі і законьніцы, такія, як сьвяты Банавентура, сьвяты Антоні, сьвятая Клара...

Сьвяты Францішак быў урэшце прызнаны людзьмі. Яго пачалі ўяўляць з песьняю на вуснах і з Евангельлем у сэрцы. Нібы і не было камянёў, якімі шпурлялі ў яго, нібы не было зьнявагаў. Ён быў здольны ўлагодзіць ваўка, вызваліць галубку, нават разбойнікам вярнуць пагаду і чуласьць і, рызыкуючы жыцьцём, выправіцца да мусульманаў. А за два гады да сьмерці як узнагароду атрымаць стыгматы – Езусавы раны.

І такім ён застаўся. Памёр Францішак у 1226 годзе. Але на самой справе ён заўсёды сярод жывых, ён жыве і нястомна ідзе па зямлі з евангельскім пасланьнем, а таксама з трывожным вельмі актуальным пытаньнем: чаму не ў пашане любоў?









# Меншыя браты капуцыны

*"Напішы, што благаслаўляю ўсіх маіх братоў, тых, якія цяпер у законе, і тых, што будуць уступаць у яго аж да канца сьвету".*
*(Сьвенскі тэстамэнт)*

У канцы XV стагоддзя была адкрыта Амерыка, але ўсё ж сьвет здаваўся зацесным для таго, каб людзі маглі адчуваць сябе братамі. Усё часьцей яны забываліся пра братэрства, хоць пра сьвятога Францішка і надалей гаварылі з захапленьнем. Аднак жыцьцё няспынна аддалялася ад ягоных ідэалаў. Сьвет зноў шукаў прыкладаў.

На гэтыя пошукі стараліся даць адказ пасьлядоўнікі сьвятога Францішка. Таму менавіта сярод іх вылучылася новая манаская сям'я, якая праз пэўны час стала звацца законам меншых братоў капуцынаў. Гэта быў 1525 год.

У Польшчу і Вялікае Княства Літоўскае яны прыбылі, дзякуючы намаганьням караля і вялікага князя Яна III Сабескага. Ён быў фундатарам першага кляштара і касьцёла ў Варшаве. Таго самага, які ў 1983 годзе наведаў Ян Павел II.

Канец XVII стагоддзя і наступныя гады для Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага былі неспакойныя.

Нягледзячы на гэта, меншыя браты капуцыны неяк здолелі ўрасьці ў гэтую здратаваную і пакутную зямлю. Але ў 1823 годзе былі выгнаныя з захопленай Прусіяй часткі Польшчы.

У часе паўстаньня 1863 года ў Варшаве расейскімі царскімі ўладамі быў павешаны Агрыпін Канарскі, а айцец Максім Тарэйва скончыў жыцьцё на шыбеніцы ў Каніне. Шмат законьнікаў апынулася на сібірскай катарзе або ў выгнаньні. Браты моцна трымаліся свайго прызваньня. Слуга Божы айцец Ганарат Казьмінскі ў надзвычай небясьпечных умовах узяўся за вялікую справу аднаўленьня закону. Ён стварыў новыя формы манаскага жыцьця. Браты і сёстры дабіраліся да самых далёкіх мясьцінаў, апыналіся ў самым цэнтры Азіі...

*"Статут і жыцьцё меншых братоў грунтуецца на вернасьці сьвятому Евангельлю нашага Пана Езуса Хрыста праз жыцьцё ў паслушэнстве, без уласнасьці і ў чысьціні".*
*(2 Стат. 1,1)*

Міжваенны перыяд на кароткі час разьясьніў гарызонты. Закон хутка адраджаўся. Ён стварыў апостальскі асяродак сярод уніятаў, аднавіў сваю дзейнасьць у іншых мясьцінах Краю. Але распачалася другая сусьветная вайна. Каля 50% законьнікаў толькі з Варшаўскай правінцыі апынулася ў гітлераўскіх вязьніцах і лагерах. Дваццаць чатыры ахвяравалі сваім жыцьцём. І зноў трэба было пачынаць усё амаль спачатку, каб служыць кожнаму чалавеку, як брату. Самае важнае для францішканіна наблізіць да сучаснага сьвету Францішкаву братэрскасьць. Такая задача гэтага закону ў Беларусі, Польшчы, Літве, на Украіне, у Італіі, Злучаных Штатах Амерыкі, Гватэмале, Швецыі, Афрыцы, на Захадзе і на Усходзе. Там, дзе людзі чакаюць тых, хто хоча быць іхнімі братамі.

**Падрыхтаваў**
**а.Анатоль ЯРОШКА**

*"Усемагутны, найсьвяцейшы, найвышэйшы і найлепшы Божа, Табе імкнёмся аддаваць усялякую хвалу, уславеньне, удзячнасьць, благаславенства і ўсялякае багацьце".*
*(Малітва сьв.Францішка)*





## МАЛІТВА СЬВЯТОГА ФРАНЦІШКА

*О Пане, зрабі з нас выканаўцаў*
*спакою Твайго,*
*каб любоў мы сеялі,*
*там, дзе пануе нянавісьць;*
*прабачэньне —*
*там, дзе пануе крыўда;*
*еднасьць —*
*там, дзе пануе разлад;*
*надзею —*
*там, дзе пануе адчай;*
*сьвятло —*
*там, дзе пануе цемра;*
*радасьць —*
*там, дзе пануе смутак.*
*Зрабі, каб маглі мы*
*не толькі шукаць суцяшэньня,*
*але суцяшэньне даваць;*
*не толькі шукаць зразуменьня,*
*але разумець;*
*не толькі любові шукаць,*
*але і любіць;*
*бо, даючы — атрымаем;*
*выбачаючы — мець будзем прабачэньне;*
*і паміраючы,*
*нараджаемся для вечнага жыцьця,*
*праз Езуса Хрыста, нашага Пана.*

*"Усе без адрозьненьня няхай завуцца меншымі братамі".*
*(1 Стат. 6,3)*

*"Браты павінны памятаць, што больш за ўсё ім трэба імкнуцца мець Духа Панскага разам з Яго асьвячальнаю дзейнасьцю".*
*(2 Стат. 10,8)*

*"...каб заўсёды любілі і зьберагалі вернасьць нашаму Пану, сьвятому ўбоству".*
*(Сененскі тэстамэнт 4)*

*"Услаўлены будзь, Пане мой, братам агнём".*
*(Сонечная песьня 8)*

*"Як пілігрымы і чужыя на гэтым сьвеце, няхай служаць Пану ва ўбостве і пакорлівасьці".*
*(2 Стат. 6,2)*

**Хлопцаў, зацікаўленых асобаю сьвятога Францішка з Асізі, запрашаем на рэкалекцыі.**
**Усе, хто мае жаданьне прыехаць на заняткі, могуць зьвярнуцца па адрасу:**

**а.Віктар Барысевіч**
**вул.Пушкіна, 46**
**211710 Докшыцы**
**Віцебская вобл.**
**(тэлефон: 8-02157 21959)**

**ці: а.Анатоль Ярошка**
**зав.Багдановіча, 38**
**220040 г.Мінск**





***ВЕРА НА ШТОДЗЕНЬ***

# Як пазнаць свайго апекуна?

***Кожны хрысьціянін мае свайго апекуна ў небе, і, вядома ж, кожны хоча як найбольш ведаць аб жыцьці, дзейнасьці, учынках чалавека, які некалі жыў на зямлі, верай і праўдай служыў Богу, а цяпер разам з анёламі і ўсімі сьвятымі мае другую айчыну – нябесную. Ёсьць шмат кніг, якія распавядаюць аб зямным шляху сьвятых. Але вось мы глядзім на абраз сьвятога, бачым на ім нейкія рэчы, а то й жывёлаў, і часта не ведаем, што яны азначаюць, чаму менавіта гэтыя атрыбуты намаляваны на абразе таго ці іншага сьвятога. Наша сёньняшняя размова менавіта пра гэта.***

Са старажытных часоў сімвалам надзеі, якую кожны хрысьціянін павінен мець праз усё жыцьцё, быў якар. Карабель служыў вобразам Касьцёла, які плыве сярод безданяў і бураў сьвету, ягнё альбо рыба служылі вобразамі Хрыста. Яны, дарэчы, былі знакамі, паводле якіх распазнавалі хрысьціянаў, асабліва ў часы, калі Хрыстова вера цярпела перасьлед, а яе вызнаваньне пагражала сьмерцю.

Калі ж хрысьціяне атрымалі магчымасьць прынародна вызнаваць сваю веру, пачалі паўставаць сьвятыні, а ў іх – абразы і разьбяныя фігуры, збоч ад іх часам разьмяшчаліся прадметы, што таксама гаварылі аб жыцьці альбо сьмерці сьвятога. Найчасьцей на абразах сьвятых можна сустрэць такі атрыбут, як арэол (сьветлае кола вакол галавы альбо вакол усяго цела).



Сьвятая Анна

У хрысьціянскім мастацтве найперш зьявіліся абразы чатырох евангелістаў. Дзеля адрозьненьня ад іншых вучняў Хрыста іх зазвычай малявалі з кнігамі альбо скруткамі папірусу. Пачынаючы з IVст. на іх абразах зьявіліся сімвалічныя фігуры (чалавека, вала, ільва, арла). Абраз сьвятога Мацьвея меў, напрыклад, выяву яшчэ аднаго чалавека – бо сьвяты Мацьвей пачаў сваё Евангельле з чалавечага паходжаньня Езуса Хрыста. На абразе сьвятога Марка можна было ўбачыць ільва, які павінен нагадваць голас, што гукае ў пустэльні. Сьвятому Луку спадарожнічаў вол, ахвярная жывёла, бо гэты евангеліст распачынаў сваё Евангельле з ахвяры Захарыі. Сьвятому Яну на абразах малявалі арла, бо сьвяты, распавядаючы аб Езусе, нібы арол, узносіўся ў паднябесьсе.


Сьвяты Экспедыт

Скрутак пергаменту, пяро, кніга паказваюць на тое, што сьвяты быў пісьменьнікам Касьцёла (сьвяты Аўгустын, сьвяты Тамаш з Аквіну, сьвяты Геранім). Сямі- альбо пяціканцовая карона, якая стаіць каля ног сьвятога, сьведчыць аб яго паходжаньні са знатнага роду (сьвяты Казімір, сьвяты Уладыслаў). Яблык альбо зямны шар з крыжам – знак караля альбо цара (сьвяты Генрык, сьвяты Людвік). Калі сьвяты трымае ў руках маленькі касьцёл, то гэта азначае, што ён быў фундатарам нейкага храма альбо кляштару (благаслаўлёная Кінга – заснавальніца кляштару, сьвятая Ядвіга – фундатарка кляштару). Мітра і пастарал азначаюць біскупскую годнасьць (сьвяты Войцэх, сьвяты Станіслаў).

Патройны крыж заўсёды азначае, што сьвяты быў рымскім папам.

Кій пілігрыма і скураны мех на вадзе кажа нам, што гэты сьвяты – місіянер, які абвяшчаў Евангельле ў далёкіх краях (сьвяты Францішак Ксавэры).


Сьвяты Алойзы

Сьвятую Агнешку зазвычай малююць з мечам, якім яе забілі, калі яна нязломна берагла сваю веру. Сьвятую Кацярыну – з колам, на якім відаць вострыя нажы; на гэтым коле яе мучылі, каб адраклася ад Хрыста. Сьвятую Барбару – з келіхам у руцэ на фоне скалаў і

вежы, дзе яе трымаў у вязьніцы бацька. Гостыя і келіх нагадваюць нам, што яна зьяўляецца апякункай добрай сьмерці, якой папярэднічае прыняцьце сьвятых Сакрамэнтаў.

Два ключы і рыба – знак сьвятога Бянона, біскупа Місьні. Выязджаючы ў Рым, ён загадаў вернікам, каб у часе небясьпекі яны ўкінулі ключы ад катэдральнай скарбонкі ў раку. Вярнуўшыся, ён атрымаў ад рыбакоў рыбу, усярэдзіне якой былі тыя ключы. Сьвятая Гэлена, маці Канстанціна Вялікага, ў абедзьвюх руках трымае крыж Хрыста. Дзякуючы ёй, цудоўным чынам знойдзены сапраўдны крыж Збавіцеля, які быў закапаны паблізу Галгофы. Рыцар з дзідай, які забівае цмока, – сьвяты Юры (цмок сімвалізуе спакусы і небясьпекі, што пагражаюць усім, асабліва маладым людзям). Сьвятога Марціна найчасьцей можна ўбачыць на абразах як рыцара на белым кані, што дорыць жабракам палову свайго плашча. Некаторыя мастакі малююць яго яшчэ і з гусём: калі сьвяты Марцін хацеў ухіліцца ад прыняцьця біскупскай годнасьці і схаваўся, гусі сваім крыкам выдалі месца ягонае схованкі.


Сьвятая Ядвіга

Два вялікія апосталы – сьвяты Пётр і сьвяты Павел – малююцца на абразах зазвычай так: першы – з ключамі ў руках, бо Хрыстус даў яму ўладу ў Касьцёле на зямлі і зрабіў яго сваім намесьнікам; другі ж – з мечам, бо ім ён быў забіты ў Рыме. Сьвяты, які трымае перад сабой касы крыж у форме літары Х – апостал Андрэй (ён памёр менавіта на гэткім крыжы). Крыж з галубкай – атрыбут сьвятой Рэгіны, якой у часе знаходжаньня ў вязьніцы зьявіўся Хрыстус з крыжам і галубкай, надаючы ёй адвагі дзеля трываласьці ў мучэньнях. Сьвятога Роха мы заўсёды бачым з сабакам, які ў зубах трымае бохан хлеба, бо хвораму сьвятому ў ягоную самотную пячору сабака прыносіў ежу. Сьвятыя дзевы на абразах зазвычай трымаюць у руках лілію – сімвал чысьціні (сьвятая Тэрэза, сьвятая Марыя Гарэцці і г.д.). Сьвятую Апалонію часам малююць з абцугамі і зубам, бо мучыцелі вырывалі ў яе зубы. Ля ног сьвятога Гераніма на абразах ляжыць леў. Як апавядае легенда, звер, з лапы якога сьвяты выцягнуў цярніцу, пасябраваў з ім.


Сьвяты Рох

Сьвяты Патрык, апостал і апякун Ірландыі, часам адлюстраваны з трылісьнікам фінікавай пальмы. Традыцыя кажа, што калі ягоныя слухачы не маглі зразумець таямніцы Сьвятой Тройцы, Патрык сарваў ліст фінікавай пальмы і на гэтым прыкладзе растлумачыў таямніцу веры. Міланскага біскупа, сьвятога Амброзія, можна ўбачыць на абразах з вульлём і пчоламі. Калі ён быў малы, на ягоныя вусны ў сьне сеў рой пчол і ніводная не ўкусіла дзіцяці. Апякунку касьцельнай музыкі, сьвятую Цэцылію, мастакі часта малююць з арфай альбо арганам. Апекуна пажарнікаў, сьвятога Фларыяна можна бачыць з посудам, напоўненым вадой, якая выліваецца на палаючы дом. Сьвятую Клару мы бачым з манстранцыяй у руках: калі захопнікі намагаліся ўварвацца ў кляштар у Асізі, яна выйшла насустрач ім з Найсьвяцейшым Сакрамэнтам і тым самым выратавала горад.


Сьвяты Ігнацы Лаёла

Сьвяты Лука часта прадстаўлены на абразах у момант, калі ён малюе абраз Найсьвяцейшай Панны Марыі. Ён зьяўляецца апекуном мастакоў. Сьвяты Мікола-цудатворца зазвычай малюецца ў біскупскіх шатах і часам... з булкамі, якімі ён абдорваў бедных дзяцей.

Як бачым, на абразах не бывае выпадковых прадметаў. Кожная рэч штосьці гаворыць аб жыцьці сьвятога, ягоным характары, занятках, абставінах сьмерці. Прадметы на абразах – гэта сімвал жыцьця людзей, якіх Касьцёл вынес на алтар, каб яны былі для нас узорам, як трэба жыць, каб падабацца Богу.

***Паводле матэрыялаў часопіса "Mały apostoł", 1987г. №3.***

***Падрыхтавала І.СТУДЗЕНЬСКАЯ***


Сьвяты Юда Тадэвуш





# МАЛІТВЫ ЦУДОЎНЫЯ СЛОВЫ...

### Малітва Каралевы Сьвятога Ружанца

Пане, Усемагутны Божа! Праз твайго Адзінароднага Сына, які сваім жыцьцём, сьмерцю і зьмёртвыхпаўстаньнем адкупіў нас для вечнага збаўленьня, просім Цябе: удзялі нам ласку, каб мы, разважаючы таямніцы Сьвятога Ружанца Благаславёнай Дзевы Марыі, умелі годна насьледаваць тое, пра што яны распавядаюць, і атрымалі тое, што яны абяцаюць. Праз нашага Пана Езуса Хрыста, які жыве і валадарыць з Богам Айцом у еднасьці з Духам Сьвятым, праз усе вякі вечныя. Амэн.

### Да сьвятога Апекуна

Сьвяты Апякуне мой...! Дзякую за апеку, якою атуляеш мяне. Прашу, не выпускай мяне і надалей з тваёй ласкавай апекі. Будзь маім заступнікам перад тронам усемагутнага Бога і выпрасі мне прабачэньне грахоў, а таксама шчодрыя ласкі, каб з дапамогаю іх я мог перамагчы ўсе спакусы сьвету і ісьці дарогаю тых дабрадзейнасьцяў, якія асьвятлялі твае жыцьцё. Падтрымлівай мяне таксама ў часе ўсіх цярпеньняў, і асабліва ў гадзіну сьмерці. Прашу ў цябе гэтага праз тую любоў, якою ты палаў і палаеш да Таго, каторы жыве і валадарыць на векі вечныя. Амэн.




### Да сьвятой Тэрэсы

Сьвятая Тэрэса! Твае жыцьцё было поўнае мудрасьці, а сэрца — любові, якімі ты распраменьвала і адагравала цёмны ды халодны сьвет. Будзь настаўніцаю майго духоўнага жыцьця, выпрасі для мяне дар малітвы, пабожнага разважаньня і пастаяннай лучнасьці з Богам. Амэн.

### Да сьвятога Антонія

Успомні, сьвяты Антоні, той вялікі гонар, які Пан Езус аказаў табе, бо многім тысячам людзей, што да цябе зьвярталіся, праз цябе ж аказаў сваю дапамогу. Успомні: многім з тых, каму пагражала сьмерць, ты вярнуў жыцьцё, тым, хто заблудзіўся, ты даў патрэбную раду, журботным — суцяшэньне, апантаным — вызваленьне, пракажоным — ачышчэньне, хворым — здароўе, вязьням — волю, абкрадзеным — іхняе дабро, а многія бедныя праз цябе суцяшэньне і дапамогу атрымалі і да гэтага дня атрымліваюць. Зьвяртаюся і я да цябе, прашу дапамогі і парады...

Дай мне суцяшэньне, выпрасі сілу і гатоўнасьць заўсёды паддавацца волі Божай, каб я цярпліва вытрываў і не страціў тае заслугі, якую праз належную вытрываласьць у часе нягодаў магу атрымаць. Веру, што выслухаў ты мяне, сьвяты Антоні, ды не мая, але Божая воля няхай станецца. Амэн.



Аляксандр ЛАКОТКА

# КАЛЯ ВЫТОКАЎ ВІЛІІ

Сярод лясоў і пакрытых ядлоўцам ды ледніковымі валунамі пагоркаў вёску Вілейка знойдзеш не адразу. Трэба збочыць з дарогі Бягомль–Докшыцы на Бярозкі і толькі праехаўшы праз лес кіламетраў дзесяць і мінуўшы вёску Вітунчыцы, трапіш у даліну, дзе бярэ пачатак Вілія. Перад вачыма – ланцужок хатаў, сілуэт драўлянага двухвежавага касьцёла – даўно закінутага. Сумна глядзяць цёмныя адтуліны пустых вокнаў, няма на вежах крыжоў і медных званоў...

Пажоўклыя старонкі дакументаў апавядаюць, што ў XVI–XVII стст. вёска належала графам Пацам. Фундацыйны запіс ад 23 жніўня 1707г. сьведчыць, што граф Мікалай Андрэй Пац выдзяліў мясцоваму касьцёлу дзьве з паловай валокі зямлі і іншыя ўгоддзі. Відаць, той касьцёл стаяў ажно з XVI стагоддзя. Інвентар ад 23 красавіка 1793г. сьведчыць, што Вілейка адносілася да маёнтка Кржчэнішкі Вілейскага ваяводства. Вёска налічвала 14 двароў, якія належалі чатыром шляхцічам і простым чыншавікам, што арэндавалі двары ў маёнтку.

У хуткім часе вёска стала належаць віленскаму жаночаму кляштару візітак, аб чым сьведчыць інвентар ад 20 мая 1797 года. Тагачасная Вілейка налічвала 23 двары.

Акрамя Вілейкі, ва ўладаньне ўваходзілі засьценкі Крамовічы, Велькапольле, Замойск, Красьнік, Вуглы, Гарадзішча, вёска Воўча, засьценкі Каменка, Толча, Філіпоўшчына.

Аб далейшым лёсе вёскі дакументы паведамляюць ужо ў ІІ-ой палове XIX стагоддзя. Паводле дадзеных сьпісу воласцяў, сельскіх грамадстваў і паселішчаў Мінскай губерні за 1870г. Вілейка належала да Вітунчыцкай воласьці Барысаўскага павету. Вёска пазначана як былая казённая, з былымі дзяржаўнымі сялянамі, адкуль зразумела, што ўладаньне ў візітак было канфіскавана.

Слоўнік геаграфічных польскіх земляў 1893 года выданьня ўпамінае пра Паца і візітак. На гэты час вёска была казённая, з лясніцтвам. Маёнтак уключаў, акрамя Вілейкі, 9 малых вёсак і налічваў 378 валокаў зямлі. Фальварак Вілейка знаходзіўся на поўдзень ад вёскі, за чатыры вярсты, каля рэчкі Амнішоўкі, левага прытока Віліі. Пазначана Праабражэнская царква ў Вілейцы, гмінная школа, капліца Нараджэньня Марыі ў Воўчы, фундацыі візітак з 1790 года.

Складаны і поўны драматызму лёс выпаў на долю Вілейскага касьцёла. Яго гісторыя складаецца з трох этапаў. Першы – ад XVIст. і да 1818г., калі тут быў касьцёл, спачатку пры Пацах, а пазьней пры візітках. Далей дакументы сьведчаць, што той будынак, які захаваўся да нашага часу, узьведзены ў 1818г. (другі этап). Што здарылася з папярэднім збудаваньнем – невядома.

Новы будынак 1818г. таксама быў узьведзены візіткамі. Трэці этап пачаўся з 1860 года. На гэты час уладаньні візітак перайшлі ў казну, і на дзяржаўную субсідыю ў тысяча сто дваццаць два рублі ў выніку капітальнага рамонту былы касьцёл пераабсталявалі ў Праабражэнскую царкву – так ажыцьцяўлялася царская праграма замены каталіцызму праваслаўем. З каштоўнага начыньня ў царкве былі набор літургічных сасудаў і тры евангельлі – два з простым абкладам з фініфамі, а адно з абкладам з фіялетавага аксаміту са срэбраным і залочаным аздабленьнем. Побач з храмам знаходзіліся могілкі, абнесеныя драўлянай агароджай.

У канцы XIX – пачатку XX стст. сьвятаром вілейскай царквы быў Акім Андрыеўскі, які ў Мінску меў дом на Паўночным завулку, 18. (Дом захаваўся ў выдатным стане, уражвае разьбяным ганкам, цудоўнымі кафлянымі печкамі, антыкварнай мэбляй. Гэта каштоўны помнік драўлянай архітэктуры горада.)

Занепала царква ў 30-ыя гг., калі была зачынена. Крыжы скінулі, званы невядома куды зьвезьлі, абразы спалілі ці разрабавалі. Але моцная пабудова, зробленая выдатнымі майстрамі з якаснай драўніны ўпарта супраціўлялася бязьлітаснаму часу. Абадралі паціху шалёўку, прагніла страха, пахіліліся макаўкі вежаў, але і цяпер выдатны помнік драўлянай архітэктуры дамінуе ў сілуэце вёскі, маляўніча спалучаючыся з лесам, палямі, узгоркамі, схіламі. Узьнятыя да нябёсаў драўляныя вежы вымушаюць зьвярнуць погляд з глыбіняў сівых стагоддзяў да часоў будучых...

Ёсьць у вёсцы Вілейка і яшчэ адно месца, дзе зноў нібы трапляеш у далёкае мінулае. Гэта старыя могілкі. Заімшэлыя магутныя крыжы, кавальскія крыжыкі на каменным п'едэстале і рапатам, у кустоўі, задзірванелыя камяні з выявай крыжа мальтыйскага ўзору. А вось сівы камень з ледзь прыкметнай выявай "елачкі", падобнай да старажытнага індаеўрапейскага "дрэва жыцьця". Такія яны – загадкі мінуўшчыны, што ўзыходзяць да сьветапогляду і культуры Пацаў, візітак. Шкада, што дзірванеюць сьцежкі дзядоў на роднай зямлі...


Касьцёл візітак у вёсцы Вілейка Докшыцкага раёна. Фота пачатку XXст.


Касьцёл візітак у 1991г.



## Разам з Марыськай




*Сябры!*

*Я спадзяюся, вы любіце маліцца на сьвятым ружанцы. І, напэўна ж, доўгімі кастрычніцкімі вечарамі разам з усёй сям'ёй альбо з сябрамі, альбо ў Касьцёле перабіраеце ў руках пацерынкі ружанца ды разважаеце над ягонымі таямніцамі. Але ці заўсёды вы добра ведаеце, якія падзеі ўвабралі ў сябе таямніцы ружанца? Дык, можа, паразважаем над імі, а значыць, і памолімся разам?*

*Будзьце ўважлівыя. Мы распачынаем наш агульны ДЗІЦЯЧЫ РУЖАНЕЦ.*

*У кожным нумары "Ave Maria" мы будзем разважаць над адной таямніцай сьвятога ружанца. А дзеля таго, каб у наш ружанец маглі ўключыцца ўсе, хто жадае, я ў кожным нумары буду задаваць пытаньні пра тыя падзеі, аб якіх ідзе гаворка ў дадзенай таямніцы. Вы ж, памаліўшыся гэтую таямніцу, напішыце адказы і дашліце іх мне ў рэдакцыю. А можа, хтосьці зробіць малюнак альбо напіша верш ці апавяданьне на гэтую тэму, то, калі ласка, дасылайце і іх. У наступным нумары мы надрукуем правільныя адказы і прозьвішчы тых, хто найлепш справіўся з заданьнем. Пасьля заканчэньня пяці таямніцаў радаснай часткі, а потым і пяці таямніцаў пакутнай мы будзем падводзіць вынікі. Тыя, хто прышле найбольш правільныя адказы, атрымаюць ад мяне падарункі. Але самы цікавы сюрпрыз чакае таго, хто правільна адкажа на пытаньні да ўсіх пятнаццаці таямніцаў сьвятога ружанца. І яшчэ. Вельмі вас прашу: пішыце разборліва, а калі штосьці малюеце, то малюйце акуратна, выразна, правільна пішыце таксама свой адрас, прозьвішча і імя.*

*Дамовіліся?*





***А цяпер — увага! Пачынаем наш супольны ДЗІЦЯЧЫ РУЖАНЕЦ***

**Частка першая — радасная**

**Таямніца першая**

## Зьвеставаньне Найсьвяцейшай Марыі Паньне



**Пытаньні да разважаньняў**

**1.** Назавіце месца нараджэньня Найсьвяцейшай Марыі Панны.

**2.** Як звалі бацькоў Найсьвяцейшай Панны Марыі?

**3.** Назавіце імя анёла, які сказаў Марыі пра тое, што яна зачне і народзіць Сына.

**4.** "Вось я, служабніца майго Пана, няхай жа мне станецца па твайму слову". Каму належаць гэтыя словы і ў якой малітве мы заўсёды паўтараем іх?

**5.** Калі Касьцёл адзначае сьвята Зьвеставаньня?

*Ну, знайшлі правільныя адказы?*

*А цяпер давайце ўсе разам памолімся гэтую таямнічку ружанца.*

Папросім у ёй Пана Бога ўдзяліць нам ласку паслухмянасьці. Пане Божа! Дапамажы ўсім нам, хто моліцца гэты ружанец, быць заўсёды паслухмянымі Тваім наказам, каб мы ў сваім жыцьці рабілі толькі тое, што падабаецца Табе.

*Ойча наш...*

*10 Вітай, Марыя...*

*Хвала Айцу...*

О мой Езу! Прабач нам грахі нашыя, захавай нас ад агню пякельнага, правядзі ўсе душы да неба і асабліва памажы тым, каму найбольш патрэбна Твая міласэрнасьць.

*Сябры! Чакаю вашых лістоў з адказамі. Буду рада таксама, калі нехта захоча распавесьці мне штосьці цікавае пра тое, як і дзе ён моліцца ружанец і г.д. А можа нехта мае цікавыя здымкі? Дасылайце. Найбольш цікавыя допісы, малюнкі, здымкі мы абавязкова надрукуем у нашых выпусках.*

*Бывайце! Да наступнай таямніцы, якую ўсе мы разам будзем маліцца ў чарговым нумары "Ave Maria"!*

*Марыська*

## КОРАТКА ПРА ВЕЧНАЕ

Шукайма Бога не на вышынях, але на зямлі — штохвіліны і ў кожнай нашай справе; дапаможа нам у гэтым Марыя, якая не на ўзвышаных алтарах Сыёну, але ў стайні, у ясьлях паклала Божае Дзіця.

***

Людзі пастанавілі, каб Бога не было, але яны не ведаюць, што Ён не павінен прыстасоўвацца да іхніх рэзалюцый.

***

Найлепей чалавек просіць тады, калі дзякуе.

***

Чалавек найбольш атрымлівае карысьці тады, калі ён моліцца за іншых.

***

Лепш плакаць, чым злавацца. Бо злосьць цэліцца ў іншых, а сьлёзы ціха плывуць праз душу і абмываюць сэрца, твар і рукі.

***

Заўсёды, калі асабліва цяжка, калі цемра агортвае зямлю, а сонца ўжо гасьне і зоркі не даюць сьвятла, усё трэба аддаваць Марыі.

***

Смутак трэба рассейваць малітвай, як туман — сонечнымі промнямі.

***

Там, дзе пануе вялікі давер да Марыі і вера ў Яе перамогу, там Бог здзяйсьняе праз Яе найдзівосьнейшыя цуды сваёй магутнасьці.

***

Не будзем баяцца, што Марыя заслоніць нам Хрыста. Яна дзеля таго ёсьць, каб праводзіць нас да Яго.

*Кардынал Стэфан Вышынскі*

**«Ave Maria»**
Кастрычнік № 10 (36) 1997
Заснавальнік – Мінска-Магілёўская архідыяцэзія
Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржкамітэце Рэспублікі Беларусь па друку.
Рэгістрацыйны № 225.
Рэдакцыйная рада
Надрукавана ў друкарні "НЭСІ", 220141, г.Мінск, вул.Жодзінская, 18.
Зак. 2. Наклад 12 000 экз.
Адрас рэдакцыі: 220030, г.Мінск, пл.Свабоды, 9, тэл./факс: (0172) 26-90-92
Катэдральны касьцёл Найсьвяцейшай Марыі Панны
Часопіс выдаецца на ахвяраваньні вернікаў

### У НУМАРЫ














